# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

13 студзеня 1999 №20 кошт 1 літ


# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА АПАЗЫЦЫІ

***Прамінуў толькі месяц, як, дзякуючы ініцыятыве й матар'яльнаму забясьпячэньню нашага ТБК, у Вільні пабывала прадстаўнічая група апазыцыйных беларускіх палітыкаў. Фрагмэнты зь іхніх прамоваў на круглым стале, прысьвечаным 50-годзьдзю «Дэклярацыі правоў чалавека», які быў праведзены ў літоўскім парляманьце, мы друкавалі ў папярэднім нумары. А тымчасам «всенароднoизбранный» зьдзейсьніў наступны акт сваёй здрадніцкай палітыкі: падпісаў у Маскве чарговую «дэклярацыю» аб паняволеньні нашай Бацькаўшчыны імпэрскай Масквой. Невядома якімі матывамі кіруецца ў сваіх здрадных дзеях прэзыдэнт РБ, каторы яшчэ падчас выбарчай кампаніі абвесьціў: «У Расею пайду на каленях, калі будзе патрэба!». Ці то гэта паталягічная цяга ў нядаўняе савецкае, хоць і рабскае, але адносна сытае мінулае. Ці то гэта жаданьне, здаўшыся на літасьць Маскве, прыхаваць тыя злачынствы ў сацыяльнай, эканамічнай і духовай сфэры, якія ён нарабіў за часы свайго прэзыдэнцтва ў разрабаванай ім і ягонай сьвітай краіне. Ці то за ягонай сьпінаю, сапраўды, стаіць магутны апарат КДБ і «бацька народу» толькі марыянэтка, сьляпы выканаўца загадаў паўсюлысняга Камітэту. Ці то ён (па задуме КДБ?) імкнецца пацараваць і на расейскім троне... Аднак, якія б не былі матывы здрады, сама здрада гэта заўсёды Здрада.***



**ВІНЦУК ВЯЧОРКА**:

Ідэі й лёзунгі, якія вылучаў Беларускі Народны Фронт, вельмі часта апярэджвалі стан масавае сьвядомасьці: узгадайма выкрыцьці злачынстваў камунізму 1988 году, успомнім заяву пра непазьбежны развал СССР, зробленую ў 1989 годзе, прыгадаем цьверджаньні пра неабходнасьць ратунку ад імпэрскае Расеі... напачатку 90-х... Колькі бруду было выліта ды надалей выліваецца на Фронт і на ягоных дзеячоў за гэтыя ідэі й думкі! А між тым усе яны аказаліся прарочыя!

На жаль, пракорам Фронт аказаўся ў 1994 годзе, калі сьцьвярджаў, што Лукашэнка — ня проста саўгасны крыкун, а значна больш небясьпечная фігура, за якой стаіць прывід маскоўскіх візантыйскіх інтрыгаў. Мы папярэджвалі, што гэтага чалавека «раскручваюць» з далёкім прыцэлам на маскоўскі пасад. Памятаеце, колькі было іроніі й на старонках беларускай лібэральнае прэсы, і ў вуснах заходніх аналітыкаў? А цяпер Лукашэнку абавязкова ўключаюць у сьпісы прэтэндэнтаў у расейскія манархі, ладзячы сацыялягічныя апытаньні.

Так што... наш вораг — не дачасьнік з шклоўскага калгасу; ён толькі ўвасабляе сабою і, пры выпадку, захінае ворага сапраўднага й значна больш сур'ёзнага: маскоўскі імпэрыялізм...

Заўважым, што Народны Фронт ніколі ня меў ані каліва ўлады. Усё, чаго давялося дапяць, — дасягнута насуперак супраціву гэтае ўлады, насуперак магутнай Маскве. А ніколі ня меўшы ўлады, мы маем абсалютную маральную перавагу перад кожным нашым апанэнтам, бо не нясем палітычнай адказнасьці за развал гаспадаркі, за здачу Канстытуцыі, за здраду беларускіх інтарэсаў. Бо нават ня будучы дапушчанымі да ўладных рычагоў, здолелі прымусіць камуністычна-намэнклятурнае кіраўніцтва краіны пачаць пабудову незалежнае дзяржавы. І пабудаванае разбурыць вельмі цяжка нават Лукашэнку зь ягонымі дарадцамі...

Працяг на старонцы 6



**Віленская Беларуская Гімназія была беларуская ня толькі паводле сваёй назвы. Яна была такая паводле свайго духу! Усё выхаваньне й адукацыя былі прасякнутыя нацыянальнай ідэяй. За гэта мы паважаем яе. За гэта яе не любілі нашыя ворагі. Польскія ўлады чынілі ВБГ усялякія перашкоды, савецкія — наогул зачынілі й хацелі, каб нават памяць пра яе сьцёрлася ў гісторыі... Але праўды не схаваеш. Засталіся настаўнікі й вучні, якія добрым словам згадваюць пра сваю гімназію. На падставе гэтых каштоўных мэмуараў будзе напісаная праўдзівая гісторыя.**

**Мы дзякуем тым, хто адгукнуўся на нашае запрашэньне й даслаў успаміны, кнігі, фатаздымкі, — а гэта шаноўнае спадарства Барыс Кіт, Галіна Войцік, Раіса Жук-Грышкевіч, Вера Шостак, Янка Жамойцін, Кастусь Акула. Частку матар'ялаў мы публікуем у гэтым нумары. Нашай легендарнай установе будзе прысьвечаны й наступны нумар**

# Віленская Беларуская Гімназія

Віленская Беларуская Гімназія ствaралася на пераломе 1918-1919 гадоў. Ейнае ўзьнікненьне было заканамернай зьявай у агульным рэчышчы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст., галоўным цэнтрам якога была Вільня. Тагачаснае беларускае грамадзкапалітычнае жыцьцё выявілася тут у стварэньні асяродка Беларускай Сацыялістычнай Грамады, узьнікненьні пэрыядычнага друку, кнігавыдавецкіх таварыстваў, музычна-драматычнага гуртка ды інш. Ішлі пошукі формаў асьветніцкай дзейнасьці сярод беларускага жыхарства Вільні й Віленскага краю.

Аднак толькі пачатак Першай сусьветнай вайны, калі царскую акупацыю замяніла акупацыя нямецкая, якая больш абыякава, ды затое больш лібэральна ставілася да праблемы вырашэньня культурных запатрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў, — у Вільні зьявілася магчымасьць адкрыць у 1915 годзе першыя беларускія пачатковыя школы й настаўніцкія курсы. Урэшце, напрыканцы 1918 году, сярод віленскай беларускай грамадзкасьці ўзьнікла канкрэтная думка стварыць поўную беларускую сярэднюю школу. Гэта была лягічная высонва з ужо дасягнутых вынікаў асьветнай працы.

Арганізацыя й самое адкрыцьцё беларускай гімназіі ў Вільні адбываліся ў дужа нестабільнай і складанай палітычнай сытуацыі. Фармальным закладчыкам гімназіі быў Беларускі камітэт помачы пацярпелым ад вайны. Камітэт дамагаўся ейнага адкрыцьця з часу нямецкай акупацыі, аднак немцы далі дазвол толькі перад самым сваім адступленьнем зь Вільні ўвосені 1918 году. Пасьля адыходу немцаў уладу ў свае рукі ўзяла Літоўская Тарыба (Рада). Ад яе таксама быў атрыманы дазвол на адкрыцьцё беларускай гімназіі. Ён быў абвешчаны афіцыйным загадам міністра асьветы Тарыбы Мікаласам Біржышкам, у якім ад 1 студзеня 1919 году Беларускаму камітэту дзеля адкрыцьця гімназіі прыдзялялася памешканьне ў г. зв. Базыльянскіх мурох, дзе ўжо дагэтуль існавала праваслаўная духоўная сэмінарыя. Гімназія мела быць васьмікляснаю зьмешанага тыпу (для хлопцаў і дзяўчатаў) з выкладаньнем на беларускай мове.

Тымчасам Вільню заняла Чырвоная Армія, а затым была абвешчаная часовая марыянэткава Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка, г. зв. Літбел. Новыя ўлады не скасавалі папярэдні дазвол і такім чынам рэгулярныя заняткі ў гімназіі пачаліся 1 лютага 1919 году.

Асноўным ініцыятарам стварэньня ВБГ быў адзін зь сяброў Таварыства помачы, віленскі археоляг Іван Луцкевіч, поплеч зь якім актыўна дзейнічала ініцыятыўная суполка ў складзе кс. Адама Станкевіча, Леаніды Чарняўскай, Алёны Сакаловай, Юліі Мэнкэ ды Міколы Кахановіча, які стаўся першым дырэктарам гімназіі.

Першы год працы ў гімназіі быў найбольш складаны. Бракавала школьнага інвэнтара, беларускіх падручнікаў, не было яшчэ школьнай бібліятэкі й амаль ніякіх школьных дапаможнікаў. Вучняў было звыш 340 чал. Пэдагагічны калектыў складаўся з 18 настаўнікаў, зь якіх ня ўсе мелі дастатковую кваліфікацыю, ня ўсе на належным узроўні валодалі беларускай мовай. Пры скрайнім убостве сродкаў цяжка было паставіць навучаньне на адпаведную вышыню, тым больш, што дзеці былі з самай рознай падрыхтоўкай, да таго ж вучні й іхныя настаўнікі вялі паўгалоднае йснаваньне. І тут трэба адзначыць, што вялікаю да памогаю гімназіі было амаль аднячасовае

Працяг на старонцы 3



Вельмі зьместоўныя ўспаміны з нагоды 80-годзьдзя Віленскай Беларускай Гімназіі прыслаў у рэдакцыю спадар **Барыс Кіт**, знаны ў сьвеце вучоны ў галіне астранаўтыкі, каторы цяпер пражывае ў Франкфурце на Майне (Нямеччына). Ва «Уступным Слове» да ўспамінаў былы, як сам зазначыў аўтар, «вучань, вучыцель і дырэктар» гімназіі піша: «Гэтыя кароткія ўспаміны аб маіх суадносінах з славутай Беларускай Гімназіяй у Вільні ў гадох ад 1928-га да 1939-га, калі я быў спачатку вучнем падчас іспытаў на атэстат сьпеласьці (заканчэньне сярэдняй школы), пазьней вучыцелем матэматыкі, фізыкі й хіміі (ад 1931-га да 1939-га году) і ў 1939 годзе быў дырэктарам. Я ўсё сваё жыцьцё ганаруся, што лёс даў мне магчымасьць у пэўны час браць удзел у дзейнасьці ВБГ, якая адгуляла вялікую ролю на працягу ўсіх 80-ці гадоў у адраджэньні беларускага народу. Маю надзею, што гэтыя мае кароткія ўспаміны могуць стацца карыснымі для гісторыка, які будзе пісаць поўную гісторыю ВБГ. Аўтар».

Успаміны Барыса Кіта чытайце ў наступным, юбілейным, нумары нашае газэты!

## ЗАЯВА
### аб антыбеларускай дэкларацыі прэзыдэнта Лукашэнкі

Мы, сябры Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, пратэстуем супраць антыбеларускай, падпісанай Лукашэнкаму Маскве, дэкларацыі аб палітычным і эканамічным аб'яднаньні з Расеяй. Мы ўважаем, што задэкляраванае «аб'яднаньне» зьяўляецца чарговым актам здрады дыктатарскага рэжыму й можа прывесьці да канчатковай страты незалежнасьці й сувэрэнітэту нашай Бацькаўшчыны.

Ужо на працягу чатырох гадоў свайго прэзідэнцтва Лукашэнка выступае супраць беларускага адраджэньня, роднай мовы, нацыянальнай сымболікі й адукацыі, судзіць і карае беларускіх патрыётаў, праводзіць бессаромную палітыку русыфікацыі. Ягоны рэжым завёў краіну ў эканамічны й палітычны тупік. Чым далей, ён вядзе наш народ у каляніяльную, духовую й эканамічную, няволю ад імпэрскай Масквы.

Мы рашуча пратэстуем супраць праводзімай рэжымам антыбеларускай палітыкі й заклікаем беларускі народ стаць на абарону свабоды й незалежнасьці Бацькаўшчыны. Мы зьвяртаемся да беларусаў усяго сьвету, да ўсёй міжнароднай супольнасьці з заклікам падтрымаць справядлівую барацьбу нашага народу за вольную, дэмакратычную, эўрапэйскую Беларусь.

Жыве Беларусь!

*Рада ТБК*

Вільня, 5 студзеня 1999 г.

### ПАЎСЮЛЬ МАФІЯ!

гавораць вучні Віленскай беларускай школы імя Ф. Скарыны. У навагоднюю ноч злодзей пранік на тэрыторыю школы, выбіў лабавое шкло школьнага «пазіку», які стаяў на падворку, потым залез у аўтобус і папсаваў яго. Праўда, школьны вартаўнік Лёня Ільневіч і ягоныя аўчаркі злавілі злодзея. Дзіўную пазыцыю ў гэтай справе занялі працаўнікі паліцыі, каторыя ўгаворваюць школьнае кіраўніцтва, каб яно забрала заяву і не ўзбуджала справу.

### НА СПАТКАНЬНЕ З ШКОЛЬНІКАМІ

Віленскай беларускай школы прыйшлі 28 сьнежня пасол Рэспублікі Беларусь у Літве сп. Гаркун, дарадца пасла па культуры сп. Скараходаў і Дзед Мароз. Дзед Мароз быў сапраўдны беларускі: гаварыў на нашай мове й быў апранены ў бел-чырвона-белы строй!

### НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ

Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Ўладзімір Гаркун абняў гэтае адказнае становішча замест папярэдняга пасла сп. Яўгена Вайтовіча. Паслужны сьпіс новага пасла, як паведамляе газэта «Наша Старонка» Шальчынінкайскага БКЦ, гэткі: вучоба ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце й Вышэйшай партыйнай школе, служба ў войску, аграном і старшыня калгаса «Чырвоны сьцяг», намесьнік старшыні выканкама Дзяржынскага раёну й там жа загадчык сельгасупраўленьня, першы сакратар Дзяржынскага гаркама партыі (1983-1990), дэпутат Вярхоўнага Савету РБ (1990-1994), Прэм'ер-міністар РБ (1994-1998). Нарадзіўся сп. У. Гаркун у 1946 годзе ў Дзержынскім раёне Менскай вобл.

### ТРЫ ВЫСТАВЫ

з удзелам беларускіх мастакоў адбыліся ў Вільні. У доме нацыянальных суполак адкрылася выстава малюнкаў вучняў Віленскай беларускай школы. Усе вучні з трэцяе клясы. Іхняя настаўніца Леакадзія Мілаш вельмі часта хадзіла з сваімі гадаванцамі на экскурсіі па беларускіх мясьцінах Вільні. Цешыць, што да «беларускіх мясьцінаў» вучні залічылі ня толькі Базылянскія муры, сядзібу Таварыства Беларускай Культуры й беларускі касьцёл, а й вежу Гедыміна, касьцёл Сьв. Ганны й Вострую браму. Другая выстава адкрылася ў будынку Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі. Гэта выстава твораў папулярнай беларускай фотамастачкі Алены Адамчык. У часе перадкаляднага посту наведнікі былі троху шакіраваныя аголенай натураю, каторую любіць здымаць сп. Алена. Трэцяя выстава адкрылася ў галерэі «З-над Віліі». У галерэі выставілі свае працы ўдзельнікі мастацкага пленэру



*Здымак з экспазыцыі*

прысьвечанага 200-гадоваму юбілею Міцкевіча. Сярод шматлікіх мастакоў і нашыя землякі: Алесь і Сяргей Поклады, Крысьціна Балаховіч, Алег Аблажэй.

### НАБАЖЭНСТВЫ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

ў касьцёле Сьв. Барталамэя з 17 студзеня 1999году будуць праводзіцца кожную нядзелю а 10-ай раніцы. Прыходзьце ў Храм Божы! Вы атрымаеце там духовую падтрымку ў роднай мове!

Адрас нашага касьцёла: Užupio, 17. А даехаць можна аўтобусамі NN 4, 10, 11, 27, 37 ці тралейбусам N 8 да прыпынка «Užupis».

*Беларуская каталіцкая грамада*

**Увага! Ад Новага Году зьменіцца час трансьляцыі беларускіх тэлевізійных перадачаў на LTV і на II канале радыё. Сачыце за рэклямай!**

**Аргкамітэт сьвяткаваньня 80-годзьдзя ВБГ запрашае ўсіх ахвотных на ўрачыстую акадэмію, якая адбудзецца 31 студзеня 1999 году а 13.00 у залі былой гімназіі ў Базылянскіх мурох: Aušros Vartų, 7.**

Збор сродкаў на помнік **Леваніду Каралю.**

75 97 28 ☎ 61 65 32.

# СЛОВА ПРА ДУХОВАЕ РАЗДВАЕНЬНЕ

*Пісьменьнік **Зьбігнеў Жакевіч** адгукнуўся на надрукаваньне пачатку свайго артыкулу ў папярэднім нумары «Руні». Павіншаваўшы чытачоў і супрацоўнікаў газэты з Новым Годам і Божым Нараджэньнем, ён у прыватнасьці піша: «Дзякую за газэту «Рунь». Газэта малая, але паказвае сапраўдную Беларусь, каторая... ёсьць мне найбліжшая пасьля маёй польскасьці. Аднак гэтая польскасьць спараджоная Крэсамі, з памяці крыві й генаў маіх продкаў, мяркую, што з баяраў, бо бабка з боку бацькі была — Маргарыта Лаўрыновіч, бабка з боку маткі — Сьнітко». У другой частцы свайго артыкулу Зьбігнеў Жакевіч праводзіць думку, што духовае раздваеньне, невырашальная дылема Захад — Усход уласьцівыя ня толькі «мяшанцам» з Крэсаў, а ўгрунтаваныя ў самую польскую падсьвядомасьць, калі карыстацца тэрміналёгіяй знакамітага псыхааналітыка К. Г. Юнга — у «калектыўнае падсьвядомае» ў выглядзе трывалых «архетыпаў»...*

*Працяг з № 19*

Юзаф Чапскі пытаецца, дарэчы ў бок цытаванага Стэмпоўскага: «Ці не належыць выкрэсьліць гэтага касмапаліта родам з Украйны з узораў польскай інтэлігенцыі? Замкнуць Паляка выключна ў сьвеце утылітарнага нацыяналізму, ці гэта не асуджае нас, каб мы перасталі быць сабою? Дзеля гэтага трэба было б ня толькі сьцерці гумкай пару апошніх фактаў з гісторыі, але й перакрэсьліць усю традыцыю Рэчы Паспалітай Абоіх Народаў, каторай Ежы Стэмпоўскі быў найчысьцейшым выразам».

Чэслаў Мілаш, без сумненьня наш найбольш універсальны мысьлівец... заўсёды падкрэсьлівае свой радавод чалавека, які паходзіць з пакаленьняў з этнічна літоўскай Жмудзі, дзе народ быў літоўскі, а шляхта паводле духу польская, аднак жывучая ў традыцыі Рэчы Паспалітай — сказалі б мы — не Абоіх, а Многіх Народаў.

Усе цытаваныя аўтары маюць той досьвед, што пачынаючы ад XV ст. мы ёсьць народ разьмешчаны на стыку двух магутных тэктанічных плытаў (а мы ведаем, што там, дзе такія плыты труцца, выбухаюць вулканы і адбываюцца землятрусы), плытаў цывілізацыйных і духовых: візантыйскай, усходняй і заразам праваслаўнай, і — лацінскай, заходняй і заразам каталіцкай, а часткова й пратэстанцкай. З гэтага факту вынікае дваякая выснова.

Па-першае: нашае вечнае раздваеньне, адкуль комплекс наконт «лепшага» Захаду й кампэнсацыя гэтага комплексу за кошт «горшага» Ўсходу. У палітычным і грамадзкім жыцьці гэта спавадуе няспынны падзел на шалёных рамантыкаў, вечных паўстанцаў і на прагматыкаў, нявольнікаў «працы ад падставаў». Усьцяж таксама застаецца актуальным пытаньне, якое паўстае ў народных дыскусіях: «Біцца ці ня біцца?».

Другая выснова, пра якую пісаў Стэмпоўскі, гэта неперастанны выбар дарогаў. Зьява гэтая ёсьць вельмі добра знаная на Кашубах і ў Гданьску. Брунон Звара... апісвае, як многа этнічна кашубскай стыхіі ўклінілася ў нямецкасьць. Гданьская немяншчызна заўсёды ўважала за сваю адметнасьць крэсавасьць. Стандартнай постацыю гданьца гэтага пакрою ёсьць Гюнтэр Грас: з маці Кашубкі, з бацькі гданьскага Немца.

Затым, колькі вучоных і мастакоў нямецкага, жыдоўскага, расейскага, чэскага, італійскага, французскага паходжаньня падмацавалі польскую навуку й культуру... ў эпоху, калі не было польскай дзяржаўнасьці, а толькі прыцягальная духоўнасьць Палякаў сфармаваная на арыгінальны ўзор ад часоў Ягелонаў? Гэткая ўзаемазамена ёсьць натуральная зьява, калі яна выраз свабоднага выбару, пэўнай рафінацыі нутранога жыцьця асобы... Іначшая справа, калі гаворка йдзе пра прымусовае анямечваньне або русыфікацыю.

Нашыя суседзі заўважаюць падвойнае... аблічча Польшчы. Для Захаду мы занадта ірацыянальныя, містычныя, місіянскія, заглыбленыя ў грамадзкі іерархізм і кансэрватызм. Зноў жа, для Ўсходу мы занадта рацыянальныя, а заразам індывідуалістычныя, перакананыя ў тым, што асоба... ня можа падпарадкавацца вышэйшым дзяржаўным структурам — адкуль «залатая польская вольнасьць» і ў выніку заняпад дзяржавы.

Ці існуе трэцяя дарога: магчымасьць пагадненьня гэтых супрэчнасьцяў? Вельмі цікавую прапанову знаходзіма ў кніжцы С. Піскора «Пра самабытнасьць Палякаў» (Кракаў, 1988). Абапіраецца ён на канцэпцыю трансфармацыі духоўнасьці... філёзафа-фенаменоляга Макса Шэлера й псыхоляга-аналітыка Карла Юнга, які зьвярнуў ўвагу на наступствы, што нясе для асобы прыгнечаньне ўласнага лібіда — нашага найглыбейшага «я». Гэтае тлуменьне тычыцца таксама й цэлых народаў. Піскор сьцьвярджае, што ў нашай нацыянальнай сьвядомасьці й падсьвядомасьці (у юнгавым разуменьні) сутыкаюцца між сабой і зносяцца на прынцыпе аксымарону — пачаткі акцыдэнтальныя або заходнеэўрапэйскія і арыентальныя: усходнеславянскія й візантыйскія, ствараючы непадзельны акцыдэнтальна-арыентальны сплаў. Зьяўляемся мы гэткім акцыдэнтальна-арыентальным аксымаронам. Сталіся мы такімі ня ў выніку прымусу, а паводле шматвяковай традыцыі, якую прынялі дабраахвотна. Значыць, мы ёсьць разнародныя... падпарадкаваныя чужым законам, духова не аўтаномныя. Усьведамленьне факту шматвяковай трансфармацыі нашага духу прывядзе да таго, што мы перастанем тлуміць і адмаўляць нашае найглыбшае лібіда, нашае нацыянальнае «я», наш польскі этнас, які наканаваны нам у біяпсыхалягічным, духовым, цывілізацыйным аспэкце праз уплывы зароўна з Усходу й Захаду. Перастанем мы тады кампенсаваць комплекс нашай нізшасьці перад Захадам пачуцьцем высшасьці перад Усходам...

Вось жа гэтая нашая аксымарычнасьць або падвоенасьць можа адыграць вялізную ролю ў аб'яднаньні Эўропы. Напачатку сямідзясятых гадоў я зрабіў павучальную вандроўку па Ўсходняй Эўропе. Пабываў у Кіеве, Адэсе, два разы адведаў беларускі Менск. Зьведаў літоўскую Вільню. У кожным з тых жыцьцёвых цэнтраў нацыянальнага жыцьця я знайшоў адзін той самы візарунак Польшчы, які паўтараўся зь дзіўнай правільнасьцю. Людзі культуры й мастацтва, прынамсі пасыўна, зналі нашую мову й былі арыентаваныя ў нашай культурна-гістарычнай геаграфіі. Паўсюль былі мы зразумелыя й даступныя. Тады да мяне дайшло, што мы з нашай славянскай мовай найбольш знаныя й асвойтаныя Эўропай. Мы зьяўляемся Захадам, які ў сфэры культуры выразна кантрастуе з драпежнай расейскай культурай, якая нішчыла духовую самабытнасьць Беларусаў, Украінцаў пад выглядам «адзінага савецкага народу», дзе ролю старэйшага, мудрага брата адыгравала, зразумела, Расея.

Сёньня гэтыя два народы, абараняючыся перад русыфікацыяй, шукаюць сваю самабытнасьць ў гісторыі Беларусі і Ўкраіны, у роднай мове. У гэтых пошуках мы можам адыграць вялікаю ролю як арыентальна-заходняя краіна. Гэта ўрэшце наш абавязак, пра што бясконца паўтарае Гедройц. Разам зь Мерашэўскім выпрацаваў ён канцэпцыю УЛБ (Украіна — Літва — Беларусь) — вольных і незалежных краінаў, што колісь уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Нашым абавязкам ёсьць супольная адказнасьць за лёс гэтага рэгіёну, а ня права на выключнасьць, якая ня раз у гісторыі прыводзіла Палякаў да экспансыўнага шавінізму. Гэтую ролю выканаем мы пры ўмове, што ня будзем за кошт Усходу кампенсаваць свае непатрэбныя комплексы горшасьці, якія мы маем адносна Захаду.

**Зьбігнеў Жакевіч**

**Інфармацыю пра набыцьцё сымбалічнага грамадзянства БНР можна атрымаць па тэлефоне: 72 55 95 або 61 65 32.**

# Віленская Беларуская Гімназія

*Працяг са старонкі 1*

стварэньне ў Базылянскіх мурох Беларускага прытулку для дзяцей-сіротаў, ініцыятарам якога быў кс. Адам Станкевіч. Дзеці траплялі ў гімназію ня толькі з-пад Вільні, а й з Ашмяншчыны, Гродзеншчыны й нават з Навагрудчыны. Прытулак ня толькі даваў ім магчымасьць існаваньня, але й ствараў пэрспэктыву здабыцьця асьветы ў роднай мове. Працавалі тады ўсе клясы, апрача 8-ай, і яшчэ два падрыхтоўчыя, дзе ў асноўным займаліся прытулковыя дзеці.

Як згадваюць першыя выпускнікі гімназіі, яна зь першых дзён усім складам свайго кіраваньня, навучаньня й выхаваньня выразна адмяжавалася ад мэтадаў былой царскай школы зь яе нацыянальнымі, сацыяльнымі й рэлігійнымі бар'ерамі ды сталася сапраўднай школай да ўсіх ахвотных вучыцца ў ёй. Апрача беларусаў тут вучыліся дзеці рускай, жыдоўскай, татарскай ды іншых нацыянальнасьцяў, аднак ніхто зь іх не адчуваў сябе людзьмі горшай катэгорыі. Адзначаюць яны таксама вялікую ролю ў фармаваньні сьветапогляду вучняў закладчыка гімназіі І. Луцкевіча, каторы сам узяўся выкладаць беларусазнаўства й краязнаўства, робячы асаблівы націск на патрыятычнае ўзгадаваньне.

У першыя гады гімназія стойка перажывала ўсе зьмены ў палітычным становішчы Вільні. Пасьля нядоўгага жыцьця Літбела горад занялі палякі. Ізноў беларускай грамадзкасьці Вільні давялося змагацца за права гімназіі на йснаваньне. Зрэшты, асноўны час ейнай дзейнасьці прыпаў менавіта на часы міжваеннай Польшчы. Сьпярша гімназія не была дзяржаўнай установай. Ейнымі канцэсіянэрамі былі разнастайныя грамадзкія арганізацыі: спачатку Школьная Рада ў Вільні, пазьней Таварыства Беларускай Школы, а з 1928 году — Бацькоўскі камітэт гімназіі.

Гімназія ймкнулася набыць яскравы нацыянальны характар, што не было лёгка ва ўмовах чужой улады. На самым пачатку не было магчымасьці забясьпечыць выкладаньне ўсіх прадметаў па-беларуску, асабліва ў старэйшых клясах. Аднак ужо з другога году навучаньня ўсё выкладаньне было цалкам (!) пераведзенае на родную мову. Польская мова выкладалася як прадмет, па-польску вялося выкладаньне геаграфіі й гісторыі Польшчы. Тымчасам польскія ўлады намагаліся, каб як мага больш прадметаў выкладалася па-польску. Гэтак у 1925 годзе на падставе распараджэньня Міністэрства Адукацыі было загадана агульную гісторыю й агульную геаграфію выкладаць па-польску. Аднак кіраўецтва гімназіі не падпарадкавалася гэтаму. Затое гімназія тады мела абмежаваныя правы: пасьля заканчэньня васьмі клясаў нельга было здаць экзамен на атэстат сьпеласьці, а значыць і трапіць у вышэйшую навучальную установу. Правы такога гімназія дамаглася толькі ў 1928 годзе.

Самое йснаваньне беларускай гімназіі ў Вільні, сталіцы Заходняй Беларусі, было ўжо праявай апазыцыі да палянізацыйнай палітыкі тагачаснай Польшчы. Узьнікла яна на ейных Крэсах Усходніх, дзе палякі, па сутнасьці, былі нацменшасьцю, а таму санацыйныя ўлады ўсялякімі сродкамі стараліся зьліквідаваць установу, у якой за асноўную мэту ставілася захаваньне нацыянальнай самабытнасьці беларусаў, узгадаваньне патрыятычных пачуцьцяў, разьвіцьцё роднай мовы, пашырэньне дэмакратычных і гуманістычных поглядаў.

Нельга аднак аспрэчваць, што на ВБГ адчувальны ўплыў мела Кампартыя Заходняй Беларусі (КПЗБ). У гэтым ня было нічога дзіўнага, бо сярод навучэнцаў, як выхадцаў з гораду, гэтак і зь вёскі, амаль не было прадстаўнікоў вышэйшых клясаў, а значыць шмат хто зь іх лёгка паддаваўся ідэалягічнай абпрацоўцы левага напрамку. Камуністычная партыя ў Польшчы была пад забаронаю і кожная сувязь з камуністычным рухам давала падставу для палітычнага перасьледу. А ў ВБГ сапраўды былі настаўнікі й вучні, каторыя мелі непасрэдныя адносіны з камуністычным рухам, былі сярод іх нават члены кампартыі, існавалі камсамольскія ячэйкі. КПЗБ падпарадкавалася Маскве і ў яе тактыцы непасрэдна адлюстроўвалася палітыка, якая праводзілася тады ў БССР. Ейнымі характэрнымі рысамі напрыканцы 20-ых гадоў сталі нігілістычны падыход да нацыянальнага пытаньня, адмаўленьне плюралістычнага сьветапогляду, ідэя расколу ў шэрагах беларускага нацыянальнавызваленчага руху ды манапалізацыя сваёй ролі ў гэтым руху. Улічваючы ўсё гэта, уплыў КПЗБ на гімназістаў (ідэалягічны на шчырыя й самаахвярныя намаганьні некаторых ейных дзеячоў) меў дэструкцыйны характар.

У выніку склалася парадаксальная сытуацыя: польскія ўлады лічылі ВБГ «логавам камунізму», а афіцыйныя ідэолягі Савецкай Беларусі — расаднікам «буржуазнага нацыяналізму». Зрэшты, як першыя, гэтак і другія згодна выступалі супраць імкненьняў да захаваньня нацыянальнай тоеснасьці, разьвіцьця беларускай культуры, праяваў беларускага патрыятызму.

Матар'яльнае становішча вучняў і настаўнікаў гімназіі заўсёды было цяжкае. Сродкі на ейнае ўтрыманьне не паступаліся платай за навуку, тым больш, што значная частка вучняў зь сем'яў беднякоў часткова або цалкам звальнялася ад гэтай платы. Значнай дапамогай для гімназіі былі ахвяраваньні прыватных асобаў, рэгулярныя адлічэньні з пасольскіх дыетаў беларускіх паслоў, таксама вулічныя зборы й даходы ад вечарынаў.

Нягледзячы на матар'яльныя цяжкасьці ў гімназіі былі свае самадзейныя гурткі: літаратурны, драматычны, музычны, мастацкі й нават эспэранта. З 1926 году быў заснаваны вучнёўскі духавы аркестар, у якім налічвалася больш за 20 інструмэнтаў. Стварыўся й школьны хор, якім кіраваў Рыгор Шырма. Гімназія займела сваю бібліятэку й вучнёўскі каапэратыў. Нейкі час гімназісты выдавалі свой друкаваны часопіс «Вучнёўскі звон».

Новым этапам для ВБГ стаўся 1932/33 навучальны год, калі яе перавялі ў ранг дзяржаўнай. З аднаго боку гэта забясьпечыла гімназіі больш трывалую матар'яльную й прававую базу, бо яна атрымала ўсе правы дзяржаўнай вучэльні й поўнае дзяржаўнае забясьпечаньне. Аднак зь іншага боку гімназія страціла пэўную частку сваёй незалежнасьці й самастойнасьці. Яна нават зрабілася філіяй польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. Узмацніўся палітычны кантроль за «дабрадзейнасьцю» вучняў і настаўнікаў, у выніку чаго шмат каму зь іх давялося пакінуць гімназіяльныя муры.

Улады ўзялі ў свае рукі падбор пэдагагічных кадраў. Некаторых настаўнікаў звольнілі з працы, у іхні лік трапіў і выкладчык беларускай літаратуры Антон Луцкевіч. Ён выкладаў літаратуру з 1923 году пасьля Максіма Гарэцкага, які выехаў тады ў Савецкую Беларусь. Улады палічылі яго «недастаткова кваліфікаваным», нягледзячы на скончаныя два ўнівэрсытэты й цэлы шэраг працаў у беларускім літаратуразнаўстве. Вядома, сапраўдныя матывы мелі чыста палітычную афарбоўку.

Акрамя таго павялічалася колькасьць прадметаў, якія выкладаліся па-польску: агульная гісторыя, агульная геаграфія, ручная праца, фізкультура, уведзеная была вайсковая падрыхтоўка, якая праводзілася польскімі вайскоўцамі.

Тут трэба зазначыць, што ў сярэдзіне 30-ых гадоў наогул надыйшоў дужа неспрыяльны час для беларускага школьніцтва дый усяго беларускага руху Заходняй Беларусі. З выняткам Віленскай былі пазачыняныя ўсе беларускія гімназіі. Была праведзеная агульная рэформа сярэдняга школьніцтва, паводле якой васьміклясныя гімназіі былі пераўтвораныя ў чатырохклясныя гімназіі новага тыпу (шляхам скасаваньня дзьвюх першых і дзьвюх апошніх клясаў). Два апошнія клясы былі пераўтвораныя ў агульнаасьветныя й спэцыялізаваныя ліцэі. Беларусам жа ўлады адкрыць такі ліцэй не дазволілі.

Неўзабаве інтэрнат гімназіі быў перанесены з Базылянскіх муроў у новае памяшканьне. Ён перастаў называцца беларускім, а стаў «паўночна-ўсходняга краю» ды быў пад сталым наглядам службы бясьпекі. За два гады перад вайною (1937) і сама гімназія была пераведзеная з Базылянскіх муроў у будынак гімназіі імя Славацкага. У такім стане яна датрывала да восені 1939-га, да пачатку Другой сусьветнай вайны. Як вядома, польская дзяржава перастала хутка йснаваць, а Вільня, якую Саветы на працягу амаль двух месяцаў рыхтавалі да плебесцыту за далучэньне да БССР, — напачатку лістапада была аддадзеная Ковенскай рэспубліцы.

1939/40 навучальны год быў для гімназіі яшчэ менш спрыяльны, бо значная частка навучэнцаў апынулася па-за мяжой, выехалі ў Беларусь і некаторыя настаўнікі. Гімназія была рэарганізаваная ў прагімназію, а ў наступным 1940/41 навучальным годзе, калі Літва ўвайшла ў склад Савецкага Саюзу, яна стала называцца «няпоўнай сярэдняй школай».

Апошнія тры навучальныя гады адносяцца да цяжкіх часоў нямецка-фашыстоўскай акупацыі. Аднак віленскія сярэднія школы, у тым ліку й беларуская, не спынілі свайго йснаваньня. Месьцілася яна тады па новым адрасе на Вастрабрамскай, 29. У красавіку 1944 году гімназія адзначыла сваё 25-годзьдзе ды, закончыўшы свой апошні навучальны год, перастала йснаваць.



*Група настаўнікаў і былых матурыстаў ВБГ ў дзень 25-гадовага юбілею гімназіі. 1944 г. Фота даслаў К. Акула.*

Кіраўніцтва гімназіі часта мяняліся. Пасьля першага дырэктара Міколы Кахановіча на дырэктарскае становішча прыйшоў Браніслаў Тарашкевіч. Чарговымі дырэктарамі былі Антон Нэканда-Трэпка, Радаслаў Астроўскі, Сяргей Паўловіч, Аляксандар Міхалевіч, Мікола Анцукевіч, Васіль Кавалевіч, Барыс Кіта, кс. Адам Станкевіч. Апошнім дырэктарам быў Францішак Грышкевіч. Апрача згаданых ужо выкладчыкаў беларускай літаратуры М. Гарэцкага й А. Луцкевіча літаратуру выкладалі Ігнат Дварчанін і Хведар Ільяшэвіч. З настаўнікаў гімназіі, якія працавалі даўжэйшы час, варта згадаць такіх, як Язэп Шнаркевіч, Натальля Банцлебэн, Сымон Кароль, Язэп Драздовіч, Уладзіслаў Глухоўскі, Барыс Кіта, Вінцук Грышкевіч, Пётра Шчасны. На працягу ўсяго йснаваньня гімназіі працавала настаўніцаю беларускай мовы Алёна Сакалова-Лекант.

Віленская Беларуская Гімназія цэлых чвэрць веку ўзгадоўвала кадры нацыянальна-сьведамай беларускай інтэлігенцы, унесла важкі ўклад у адраджэньне Беларусі. Ейны жыцьцятворны ўплыў адчуваецца да нашых дзён.

**Лявон Луцкевіч**

# Гімназія ў апошнія гады



*Жаночы хор ВБГ. Пасярэдзіне кіраўніца Вольга Фёдарава, каля яе Соня Ваяводзкая, салістка, у сярэдзіне стаіць Галіна Войцік. 1944 г.*

## Галіна Войцік:

У 1939 годзе Віленская Беларуская Гімназія адсьвяткавала 20-годзьдзе свайго йснаваньня. З тых, хто стаяў ля ейных вытокаў яшчэ працавалі Алёна Сакалова-Лекант і кс. Адам Станкевіч. Пачатак новага навучальнага году 1 верасьня 1939-га быў і пачаткам Першай сусьветнай вайны. Усе пакручастыя падзеі ваеннага ліхалецьця адбіліся й на лёсе гімназіі, ейных настаўніках і вучнях. Пасьля 17 верасьня, калі Чырвоная Армія заняла Вільню, на агульным сходзе гімназіі быў скінуты са свайго становішча дырэктар Васіль Кавалевіч і новым дырэктарам быў абраны Барыс Кіта (Кіт). Выбар новага дырэктара быў афіцыйна зацьверджаны ўладамі Віленскай куратарыі . Аднак Барыс Кіта дырэктарам быў вельмі коратка: зараз жа пасьля перадачы Вільні Літве ён з большасьцю вучняў (80%), якія паходзілі з Заходняй Беларусі, пераехаў у Наваградак. У Вільні ж вучняў засталося няшмат, так што ўдалося арганізаваць толькі няпоўную сярэднюю школу-прагімназію, дырэктарам якой стаў кс. А. Станкевіч. Калі Літва сталася савецкаю рэспублікай яго замяніў на гэтым становішчы Мікола Анцукевіч, а ў гады нямецкай акупацыі Францьцішак Грышкевіч.

Калі сягоньня ўспамінаеш гады вучобы ў гімназіі, дык перадусім у памяці ўсплываюць постаці настаўнікаў, асабліва тых, каторыя сваімі пэдагагічнымі, маральнымі й інтэлектуальнымі якасьцямі мелі вялікі ўплыў на сваіх выхаванцаў, фармавалі маладое, адукаванае, нацыянальна-сьведамае пакаленьне.

Алёна Сакалова-Лекант, пані Алёна, так яе звычайна называлі, была настаўніцай беларускай мовы ў малодшых клясах. Яна сама паходзіла зь Вільні, тут нарадзілася, жыла, працавала, тут і памерла. Мала вядома пра тое асяродзьдзе, у якім яна гадавалася, але тая чысьцюткая беларуская мова, якую пані Алёна ўкладала ў галоўкі сваіх дзяўчатаў і хлапчукоў, была не з уні-вэрсытэту, а з тае беларускае моўнае стыхіі, што панавала ў Вільні й ейным навакольлі на пераломе XIX і XX ст. Пані Алёна была прыроджаным пэдагогам, паважна ставілася да сваёй працы, заваявала высокі аўтарытэт сярод гімназістаў. Дзясяткі гадоў пасьля заканчэньня гімназіі ейныя былыя вучні ў спрэчках, як правільна гаварыць, ужывалі важкі аргумант: «Правільна так, як нас вучыла пані Алёна!» А. Сакалова-Лекант працавала ў гімназіі ад пачатку (1919) да ейнай ліквідацыі ў 1944 годзе. За свае заслугі яна атрымала на 25-гадовы юбілей гімназіі «Крыж Заслугі» ад прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, а ад савецкай улады... 6 гадоў лягероў.

Другім настаўнікам, які таксама працаваў у гімназіі 25 гадоў, быў кс. А. Станкевіч, выдатны беларускі грамадзка-палітычны й рэлігійны дзеяч, вучоны й пэдагог. Як асоба быў ён глыбокі, надзвычай адукаваны й разам з тым талерантны, спагадлівы. Выкладаў Закон Божы для вучняў-каталікоў, а нейкі час і лаціну. Дзякуючы яму ў гімназіі панаваў дух рэлігійнай цярпімасьці, сярод вучняў былі праваслаўныя, каталікі, эвангелікі. І настаўнікі рэлігіі (праваслаўныя сьвятары часта мяняліся, эвангелікам нейкі час выкладаў Дзіліс), і вучні ставіліся да вернікаў іншай канфэсіі з пашанай. Лекцыі Закону Божага ў кс. Адама былі цікавыя, мелі філязофскі характар, вучылі думаць... Закончыў ён сваё жыцьцё ў далёкім Сыбіру.

Мікола Анцукевіч, выкладчык лаціны, вылучаўся сярод іншых настаўнікаў сваёй зьнешнасьцю: высокі, заўсёды падцягнуты, акуратна, нават элегантна апранены. Усьміхаўся ён мала, часам толькі на вечным твары зьяўлялася іранічная ўсьмешка. Ён быў строгі, ад сваіх вучняў шмат вымагаў, але й даваў ім шмат. Быў чалавекам высокай культуры, з грунтоўнай адукацыяй, дасьведчаным пэдагогам. У гімназіі была шырокая праграма лацінскай мовы, і веды атрыманыя тут адпавядалі курсу лаціны на філялягічным факультэце ўнівэрсытэту. Пасьля ліквідацыі гімназіі М. Анцукевіч працаваў у Віленскім пэдагагічным інстытуце (цяпер унівэрсытэце) выкладчыкам лаціны.

Апошні дырэктар ВБГ Францьцішак Грышкевіч быў абсальвэнтам гімназіі. Пасьля заканчэньня філялёгію на Карлавым Унівэрсытэце ў Празе, дзе абараніў доктарскую дысэртацыю. Ён прабаваў свае сілы ў публіцыстыцы й паэзіі, быў добрым аратарам. У 1941-1944 гадох выкладаў у гімназіі беларускую літаратуру й рабіў гэта зь вялікім майстэрствам. Ф. Грышкевіч зьвяртаў увагу вучняў не толькі на зьмест літаратурнага твору, але й на ягоную форму, стылістыку. Беларускую літаратуру ён чытаў у эўрапэйскім кантэксьце, паказваючы нацыянальныя асаблівасьці беларускага прыгожага пісьменства й тое, што далучае яго да агульнаэўрапэйскай літаратуры. У жыцьці гэта быў дужа сьціплы й абаяльны чалавек. Як дырэктар гімназіі ён пакінуў самыя лепшыя ўспаміны ў сваіх падначаленых і вучняў. Ён, як і многія іншыя беларускія інтэлігенты-віленчукі, таксама стаўся ахвярай бальшавіцкага тэрору.

У гімназіі працавалі настаўнікі матэматыкі Л. Карпюк і Т. Мацьвеева, настаўнік фізыкі П. Радзюк, настаўніца гісторыі Р. Падабед, настаўнік сьпеву Л. Фёдараў. Працавалі яны шчыра, не шкадуючы сілаў, давалі вучням грунтоўныя веды. Не шанцавала толькі з настаўнікамі літоўскай ды нямецкай мовы. Літоўскую мову выкладалі людзі без спэцыяльнай адукацыі, не было ні падручнікаў, ні мэтодыкі выкладаньня. Нямецкую мову выкладала ў 1939-1941 гадох З. Новік, каторая закончыла германістыку ў Віленскім Унівэрсітэце й ня мела яшчэ вопыту працы. У гады нямецкай акупацыі нямецкую мову выкладаў нейкі «Volksdeutscher», які ставіўся да сваіх абавязкаў абыякава. Адно трэба прызнаць, што ён ніколі не займаўся прапагандай нацызму.

1939/40 навучальны год прайшоў адносна спакойна. У прагімназіі, якая месьцілася цяпер на Дамініканскай, вучняў было няшмат: віленчукі й жыхары навакольных вёсак і мястэчак. Беларускае грамадзтва пасьля шматлікіх арыштаў 39-га было запалоханае й пасыўнае, дый ня ведала, чаго чакаць ад новых уладаў. Заняткі аднак праходзілі нармальна, вучыліся па старых падручніках: «Граматыка» Тарашкевіча, «Хрэстаматыя» Дварчаніна, «Геаграфія» Смоліча ды інш. Адзіным цікавым здарэньнем на працягу навучальнага году была арганізаваная М. Анцукевічам экскурсія ў Коўна. Там спаткаў нас вядомы беларускі дзеяч, архітэктар Клаўдзій Дуж-Душэўскі, паказаў горад, распавёў пра жыцьцё ковеньскай беларускай грамады.

У 1940 годзе адбылася зьмена ўлады: Літва ўвайшла ў склад СССР. У гімназіі зьмяніўся дырэктар, ім стаў М. Анцукевіч. Вучні атрымалі падручнікі й разнастайную мастацкую літаратуру зь Беларусі. Вясною 1941-га гімназію наведалі народныя паэты Янка Купала й Якуб Колас. Сустрэча зь імі выклікала супярэчлівыя пачуцьці: з аднаго боку было вельмі цікава пабачыцца й пагутарыць з жывымі клясыкамі, з другога боку яны відавочна былі не такія, як у нашаўскую пару. Перад намі былі далёка ўжо немаладыя людзі, нейкія сумныя й прыгнечаныя. Дый гутарка не атрымалася, нашыя клясыкі былі быццам скаваныя прысутнасьцю камісара асьветы Клімава й яшчэ некага зь ягонай сьвіты ці аховы.

Пачатак 1941/42 навучальнага году быў вельмі трывожны. Ішла вайна. Вільню занялі немцы. Паўсюль былі сьляды бамбардыровак. Ніхто ня ведаў, чаго чакаць ад новых акупантаў. Але й гэты навучальны год пачаўся нармальна. Гімназія, цяпер ужо поўная, разьмясьцілася на Вастрабрамскай, 29, у панадворку. Тут жа месьціліся Расейская гімназія імя Пушкіна й настаўніцкая сэмінарыя. Колькасьць вучняў значна павялічылася, прыехалі гімназісты з Заходняй Беларусі — вабіла іх сюды добрая слава ВБГ. Сярод вучняў апынулася й нямала тутэйшых палякаў, некалькі татараў з зьбеларушчыных сем'яў. Настаўніцкі калектыў таксама папоўніўся сьвежымі сіламі: пачалі працаваць настаўнік фізыкі й былы абсальвэнт гімназіі П. Радзюк, гісторык Р. Падабед, настаўнік музыкі Л. Фёдараў, ягоная сястра Вольга Фёдарава, якая вяла заняткі рысаваньня, Лена Шырма, настаўніца фізкультуры. Вучні й настаўнікі карысталіся старымі падручнікамі, часткова выдадзенымі яшчэ ў Польшчы ці ў Літве, часткова савецкімі, у якіх заштрыхоўваліся шмат якія партрэты й тэксты. Усе прадметы выкладаліся выключна па-беларуску, настаўнікі з вучнямі таксама гаварылі па-беларуску. Праўда, на перапынках некаторыя вучні размаўлялі спаміж сабой на тутэйшай польскай мове. Ні ў клясах, ні ў дырэктара, ні ў настаўніцкай не было партрэта фюрэра. Усюды вісела «Пагоня». Зразумела, што новы дырэктар гімназіі Ф. Грышкевіч мусіў мець кантакты з акупацыйнымі ўладамі, аднак у гімназію не заглядвалі ніякія інспэктары ці камісіі.

У той час вельмі ажывілася грамадзка-культурнае жыцьцё. Быў арганізаваны вялікі зьмешаны хор, якім кіраваў В. Фёдараў. Рэпэртуар быў чыста беларускі. Ладзіліся вечарыны на 25 Сакавіка, на Каляды ды іншыя нацыянальныя сьвяты й юбілеі. Ясна, што гэтыя вечарыны праводзіліся днём, бо з надыходам цемнаты хадзіць па горадзе забаранялася. Гімназію часта наведваў вядамы віленскі кампазытар Канстанцін Галкоўскі. Ён чытаў лекцыі для старэйшых клясаў з гісторыі музыкі, граў свае творы або распавядаў пра свае задумы. Галкоўскі быў невялікага росту, лысы, як калена, калі дырыгаваў, дык крысьсё ягонага фраку лётала, як крыльле. Яго так і называлі: «maestro furioso». Ён сябраваў са слынным сьпеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім і быў ягоным сталым акампаніятарам, калі той прыяжджаў у Вільню. Прыезды М. Забэйды-Суміцкага былі сьвятам ня толькі для гімназіі, а й для ўсёй беларускай грамадзкасьці. Забэйда сьпяваў беларускія народныя песьні ў абпрацоўцы Галкоўскага, ягоныя рамансы.

Раньняй вясной 1944 году гімназія сьвяткавала сваю 25-гадовы юбілей. Нягледзячы на неспакойны час (фронт пасоўваўся на захад вельмі хутка), у гімназіі на Вострабрамскай, 29 (Базылянскія муры, дзе раней месьцілася гімназія, былі занятыя пад ваенны лазарэт) сабралася шмат ейных выпускнікоў. Людзі рознага веку, розных прафэсіяў і адукацыі прыехалі зь Беларусі, Польшчы, Украіны. Сярод іх былі слынная паэтка Натальля Арсеньнева, знакаміты вучоны Барыс Кіт, вядомы філёляг Янка Станкевіч, інжынер Л. Клімовіч, магістар права Я. Шутовіч, этнограф М. Пецюкевіч, браты Лявон і Юры Луцкевічы, Лена Шырма, — усіх не пералічыць. Адбылася ўрачыстая акадэмія, былі выступленьні, канцэрт і про-



*Спатканьне са сьпеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім. На гімназіяльным падворку сядзяць: Галіна Войцік, Ніна Петухова, М. Забэйда-Суміцкі, Зіна Каханоавіч, Соня Ваяводзкая; стаяць: невядомы, С. Барткевіч, К. Барткевіч. 1944 г.*

# працы

ста шчырыя гутаркі блізкіх па духу людзей...

1943/44 навучальны год быў апошні. Гімназія была зьліквідаваная тымі, хто хацеў вынішчыць беларускі дух у Вільні й на Віленшчыне. Ад той пары паўвеку не было ў Вільні беларускае школы. Цяпер створаная Віленская беларуская школа імя Ф. Скарыны. Дык пажадайма ёй стаць спадкаемніцай ВБГ, пераняць ейныя традыцыі, ейны дух!

## Кастусь Акула:

Апынуўся я ў Вільні ў верасьні 1943 году. Ззаду, пасьля шасьці клясаў польскае, дый шасьці савецкае, а пасьля — настаўніцкіх шасьцімесячных курсаў у Глыбокім і году працы настаўнікам у Порплішчы, Вільня — як пасьля аказалася — клікала ў нязьведаныя й небясьпечныя дарогі. Дырэктар беларускай гімназіі др. Францішак Грышкевіч падахвоціў мяне, вяскоўца юнака, даведаўшыся, што я ўжо нейкія вершы згарусьціў. «Пясьняр! Вітаю!» — зь непрыхаванай усьмешкай сказаў ён. Былі яшчэ экзамены. Прынялі.

Разам з двума калегамі зь Дзісеншчыны — Кадушкам і Касьцюкевічам — нанялі два пакоі за Зялёным мостам, тут жа пры павольнай Вяльлі на вул. Юзапавічус, 12. Адсюль вока вандравала з балькона на гару Гедыміна зь невялікім аскепкам замку, і на гару Трох Крыжоў, і на Катэдральны пляц з сьвятыньню-вежаю, а там ужо направа — падарожнічала па дахах, дзе, роспачныя ў няшчасьці, цярпелі зьдзек двух акупантаў жыды...

У гімназіі бальшыню вучняў складалі мясцовыя палякі, дый мова польская пераважала беларускую, бо ваеннае ліха перашкаджала нашай вясковай моладзі вучыцца ў ведамай Кузьні беларускасьці. Нашая тройка зь Дзісеншчыны тарабаніла свае харчы аж з дому ад бацькоў. Нялёгка гэта было, бо цяжка было здабыць «рэйзэшайн» на чыгунку.

Мне ж, ужо пачынаючаму карэспандэнту менскіх газэтаў (пісаў я пра беларускае жыцьцё ў Вільні, асабліва пра розныя нацыянальныя сьвяткаваньні ды гістарычныя здарэньні лякальнага характару), два разы, па дарозе чыгункай дадому, пашчасьціла заглянуць у Менск. Напрыканцы лістапада трапіў у аблаву, маючы пры сабе адно студэнцкае гімназіяльнае пасьведчаньне, і тры месяцы адседзеў у вязьніцы ды адзін месяц у лягеры на Камароўцы. Вярнуўся ў Вільню ў пачатку красавіка. Галоўнай навіною для мяне была трагічная сьмерць Францішка Аляхновіча. Тады няведама было, што замардаваў яго маскоўскі агент.

Мову й літаратуру ў гімназіі выкладаў сам дырэктар, гісторыю выкладаў кс. Адам Станкевіч. Іншых настаўнікаў слаба памятаю. У той час ужо ўсе нябесныя сузор'і й зямныя варажбіты прадказвалі хуткую паразу Нямеччыны.

30 красавіка сьвяткавалі 25-ыя ўгодкі заснаваньня гімназіі. Прысутнічала вялікая грамада ейных абітурыентаў, прыехаўшых зь Беларусі ды сумежных краінаў. Прысутны з Прагі Міхась Забэйда-Суміцкі, наш шыракавядомы сьпявак, цешыў нас сваімі песьнямі на вялікім канцэрце ў тэатры.

Напярэдадні была Менская Школа Камаьдзіраў Краёвай Абароны, а ў канцы чэрвеня — адступленьне...

Прыгадваецца яшчэ адна сустрэча з дырэктарам гімназіі Ф. Грышкевічам, 2 ліпеня на вуліцы Віленскай, перад ратушам. Ён, заклапочаны, з пытаньнямі да нас... А мы таксама зь вялікім болем у сэрцы , калі сьлёзы вось-вось могуць нахлынуць, перад крывавай ноччу ў Вільні... Дырэктар і настаўнікі гімназіі чакалі надыходу маскоўскіх пачвараў, каб далучыцца да ліку мільёнаў і мільёнаў ахвяраў нялюдзкага камуністычнага рэжыму...

# СЬЛЯДАМІ «ЖЫЦЬЦЁВЫХ ХВАЛЯЎ» ВІКТАРА ЯРМАЛКОВІЧА

15 сьнежня 1998 году мінула адзінаццаць гадоў ад сьмерці Віктара Ярмалковіча. Нарадзіўся ён 15. XII. 1917 году ў вёсцы Юшкі на Віленшчыне, дзе ў суседніх Табарышках скончыў пачатковую школу. Пачатак сярэдняй асьветы вынес з кляштарнай гімназіі, пад апекаю беларускіх рымакаталіцкіх манахаў Марыянаў у Друі. Сьмерць бацькі ў 1936 годзе змусіла яго перапыніць навуку ў гімназіі дзеля падрыхтаваньня зьнішчэлай хваробаю бацькі гаспадаркі. Падпарадкаваньне жорсткаму манастырскаму рэжыму, адарваньне ад сям'і, безупынная фізычная праца ў манастыры, апрача навукі, уфармавалі ў падатнай, яшчэ дзіцячай, псыхіцы хлопца пачуцьцё абавязку, цярплівасьці, самаахвярнасьці й сьціпласьці. Такім Віктар Ярмалковіч застаўся на ўсё жыцьцё. Нараўні з тым, тадышнія ўзгадаваўцы засеялі ў ім пачуцьцё нацыянальнай годнасьці, якое спадарожнічала яму да канца ягоных дзён.

Вярнуцца да Марыянаў Віктару не было суджана. У міжчасе віленскі біскуп Яблжыкоўскі разаслаў беларускіх манахаў па сьвеце, замяніўшы іх прышэльцамі з Польшчы. Атэстат сьпеласьці атрымаў Ярмалковіч у Віленскай Беларускай Гімназіі ў 1937 годзе. Вышэйшую асьвету здабыў на юрыдычным факультэце Віленскага Ўнівэрсытэту.

Ня мог пагадзіцца Віктар, як сам піша ва ўспамінах, з узрастаючым «дзікім нацыяналізмам». Супрацiўляўся палянізацыі Беларусаў, пашыраў іхнюю нацыянальную сьвядомасьць дзейнасьцю ў Беларускім Студэнцкім Саюзе й публікацыямі ў прэсе, між іншым супрацоўніцтвам з каталіцкім беларускім часопісам «Крыніца». Пацьвярджае гэта ў сваіх успамінах рэлікт таго часу кс. Юзэф Абрэмбскі з суседніх Тургеляў, які з пагардай называе Беларусаў «tak zwana Bialorus», а Віктара «niejaki Jarmalkowicz», атаесамліваючы ягоную антыпалянізацыйную дзейнасьць з паняцьцем змаганьня супраць Польшчы. Зь нескрываным задавальненьнем заяўляе: «Jak bolszewicy pszyszli, odrazu tego gorliwego Bialorusa zabrali i wywiezli do Komi». Кс. Абрэмскі ня мог ня ведаць, што Віктара Ярмалковіча не бальшавікі «забралі», а ў жніўні 1939-га зьняволіла польская паліцыя бы без суда вывезла ў канцэнтрацыйны лягер Картуз-Бяроза, дзе падзяліў ён лёс шмат якіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі.

Ва ўспамінах В. Ярмалковіч не засяроджваецца выключна на сваім лёсе, і хоць жыцьцё ягонае было безупынным драмай — не драматызуе. Стараецца ён даць характарыстыку часу й падзеяў, якіх быў сьведкам.

У поўным прыгодаў падарожжы з заваёванай Немцамі Картуз-Бярозы апісвае паводзіны беларускага насельніцтва ахвотнага ў помачы падарожным зь няволі, прыклад маланкавага зарганізаваньня мясцовай улады ў постаці Беларускага Камітэту ў нямецкай ваеннай зоне, а далей і Самаўправы ў абшарах дзеяньня Чырвонай Арміі. Тыповая зьява для захаваньня беларускай вёскі ў апавядзе В. Ярмалковіча, напатканая ім у сёлах, — прывітальныя брамы: з аднаго канца для войска нямецкага, з другога — для савецкай арміі.

Мэтай вандраваньня Віктара зноў была Вільня, дзе ўжо ва ўмовах літоўскай дзяржавы давялося скончыць вучобу ва ўнівэрсытэце. Напрыканцы чэрвеня 1940 году праз Вільню пакаціліся савецкія танкі. Літва сталася Савецкай Рэспублікай. Кар'еру юрыста на пасадзе сьледчага судзьдзі пачаў Ярмалковіч у новых, незразумелых яму да канца ўмовах. Сумленнае падпарадкаваньне літары закону й пачуцьцё справядлівасьці хутка заслужыла на лаеньне начальнікам за «гнілую буржуазную мараль». Паколькі маралі ён аднак мяняць не зьбіраўся, дык няведама, чым бы ўсё скончылася, калі б зноў ня танкі ў чэрвені 1941-га, гэтым разам — нямецкія.

Прыйшла новая акупацыя, вострая й на шмат больш складаная. Пэрыяд нямецкай акупацыі спамінаецца Віктарам Ярмалковічам як самы драматычны ў ягоным жыцьці, а трагічны для беларускага насельніцтва. Найперш аджылі застарэлыя анімозіі, ахвярай якіх стаўся й аўтар успамінаў. Зь няведамых яму прычынаў быў ён зноў арыштаваны, але звольнены, дзякуючы літоўскім паліцыянтам, якім зьняволены й ягоная сям'я былі добра знаныя.

Ня маючы працы ў Вільні, Ярмалковіч з мэтай удзелу ў зарганізаваньні беларускай адміністрацыі пераехаў у Ліду. Пасьля напружанай працы ў гарадзкой управе й судовай практыкі, восеньню 1942 году быў назначаны міравым судзьдзёй у Шчучыне. Напярэдадні ягонага прыезду ў Шчучын даведаўся аб замардаваньні працаўніка гарадзкой управы Пётры Рандарэвіча, кіраўніка Беларускай Самапомачы з Васілішак Юльяна Груцкага й школьнага інспэктара Паўла Шляхтуна. У Шчучыне Ярмалковіч аказаўся ў віры тэрору, прыклад якога варта зацытаваць зь ягоных успамінаў: «Пасьля арыштаў, якія ў Шчучыне праводзіла разам зь Немцамі паліцыя Коцата, у прынёманскіх вёсках — у Лагадах, Мураўёўцы ды іншых — з надыходам другой палавіны 1942 г. пачаліся забойствы. На арэну выступіла яшчэ Армія Краёва. Між ёй і нямецкай паліцыяй не было разьмяжаваньня. Возьмем для прыкладу сям'ю Коцатаў: сам Коцат быў у Шчучыне камандантам, а ягоны сын і дачка працавалі ў АК, таксама як ягоны зяць Галомбэк, камандант палі-цыі ў Ражанцы, і большасьць ягоных паліцыянтаў». Жахлівасьць сытуацыі пацьвярджае аўтар успамінаў пералікам ведамых яму беларускіх ахвяраў тэрору: настаўнікаў Клышэвіча й Захарэвіча ды іхных сем'яў, двух настаўніцаў задушаных у Ражанцы, закатаваных сьвятара Аляхновіча й ягоную жонку Вольгу з Раковіч, селяніна Панкевіча з-пад Васілішак, настаўніцу Марыю Боська, восем асобаў зь вёскі Сарокі. З асаблівым хваляваньнем перажыў Віктар сьмерць свайго сябры Васюка, зь якім былі намоўленыя правакатарам на экскурсію за горад. Загінуў Васюк ад кулі здрайцы. Віктара ўратавала ад сьмерці прыпадковае спазненьне на ўмоўленае спатканьне. Сытуацыю ў Лідчыне не без падставы В. Ярмалковіч акрэсьліваe як «нейкую другую ступень акупацыі».

У такіх вось умовах аўтар успамінаў зарганізаваў свой беларускі міравы суд у Шчучыне. Хоць жыцьцё тады было як на вулькане, Віктара не зламалі. Верны прынцыпам справядлівасьці, ён бараніў сваім аўтарытэтам сузьдзі закон, кожнага бараніў перад незаслужонай крыўдай і гэтым здабыў прыхільнасьць людзей.

Спадарожніцай ягонага нялёгкага жыцьця сталася Яўгеня Шляхтун, сяброўка іхняй супольнай віленскай маладосьці. Вясною 1944 году, пад пагрозай тэрору і ў варунках поўнай анархіі, Яўгеня й Віктар Ярмалковічы былі змушаныя пакінуць Шчучын. Пасьля кароткага прыпынку ў Варшаве пасяліліся яны ў горадзе Біскупец, што на мазурскім прыязер'і ў Польшчы. У лістападзе 1949 году абое былі арыштаваныя, дастаўленыя ў савецкую контрразьведку ў Варшаве, а адтуль у Лігніцу. Не знайшоўшы довадаў віны, лігніцкі СМЕРШ замест арышту накіраваў іх на «добраахвотныя» варункі ў Іркуцк. З Сыбіру вярнуліся на Віктараву радзіму й абое ўзяліся за працу ў школе, у Старым Сяле. Віктар, назначаны ў хуткім часе дырэктарам той занядбанай школы, паступова паставіў яе на ногі, а ў Старым Сяле зарганізаваў культурнае жыцьцё. Гэтага й хапіла, каб заслужыць на ведамы яму ўжо закід «буржуазнай маралі», пад выдуманай прычынай арыштаваць у 1952 годзе да асудзіць на 25 гадоў зьняволеньня ў лягерох Гулагу.

У 1956 годзе Віктар Ярмалковіч аказаўся аднак зноў невінаваты й вярнуўся да сваёй вернай Яўгені з сыночкам. Спакутаваныя беспадставўным і бессэнсоўным перасьледам Ярмалковічы неўзабаве пакінулі Бацькаўшчыну й пераехалі ў Біскупец. Тут, зразумела, Віктар не падняўся працы юрыста, але, асягнуўшы прафэсію зубнога тэхніка, зарабляў такім чынам на ўтрыманьне сям'і. У ізаляцыі ад беларускага асяродзьдзя ўвесь вольны час ахвяраваў працы прысьвечанай беларускаму праву, гісторыі Беларусі, этнаграфіі беларускіх рэгіёнаў. У спадчыне пакінуў вартасную бібліяграфію: «На жыцьцёвых хвалях» (успаміны), «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», «Права і дзяржава», «Мінулае» (выпісы й іншыя матар'ялы), «Крывы горад Вільня», «Пазнавайма родны Край» (цыкл), «Ліда і лідзкая зямля», «Шчучынскі раён і Шчучын», «Іўеўскі раён», «Цярністы шлях Беларусі», «Асноўныя паняцьці права» (у 2-х частках), «З падвіленскіх палёў», «Беларуская хрысьціянская дэмократыя», «Летапіс Віленскай Беларускай Гімназіі» (зборная праца), кнігу на польскай мове «Паміж Прыпяцьцю й Дзьвіною» (гістарычны нарыс).



KURATORJUM OKRĘGU SZKOLNEGO
PAŃSTWOWA KOMISJA EGZAMINACYJNA

ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

urodzony dnia ... miesiąca ... roku ...
województwo ...
wyznania ...
po ukończeniu nauki w ...
... był ... roku ...
zdawał w ... roku ... gimnazjalny zwyczajny egzamin dojrzałości typu humanistycznego wobec Państwowej Komisji Egzaminacyjnej, powołanej przez Kuratorium Okręgu Szkolnego ... pismem z dnia ...
Nr ... i otrzymał następujące oceny ostateczne z przedmiotów egzaminacyjnych:

Атэстат сьпеласьці В. Ярмалковіча з часоў ВБГ

Успаміны Віктара Ярмалковіча «На жыцьцёвых хвалях» ёсьць тыповы прыклад лёсу інтэлігента, адданага сына зьняволенага Беларускага Народу. У сваіх успамінах ён піша «Толькі за майго жыцьця ўлада на нашай зямлі мянялася адзінаццаць разоў... Чужынцы прыходзілі ды забіралі ня раз тое, што ім патрэбілася, і адыходзілі». Не дачакаўся Віктар Ярмалковіч абвешчаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, хай сабе абмежаванага, цяжкага сувэрэнітэту, якому суджана яшчэ ці мала змагацца, але з запэўненым месцам на карце сьвету нараўні з іншымі дзяржавамі.

У сьнежаньскі дзень 1988 году праводзілі Віктара на вечны спачын вялікаю грамадою жыхары Біскупца, у якіх, відаць, заслужыў ён пашану. Ніхто аднак, апрача непрытомнай ад гора пані Яўгені з сынам ды сьціплага двухасабовага прадстаўніцтва беларускага асяродзьдзя з Варшавы, ня ведаў, каго запраўды аддаюць біскупіцкай — чужой памерламу — зямлі. Пакладзены на магілу землякамі, скромны, у бела-чырвона-белай кампазыцыі, букецік кветак у моры іншых вянкоў, букетаў сьведчыў хутчэй аб няўдзячнасьці беларускага асяродзьдзя, чымся аб заслужонай пашане Яго памяці...

**Янка Жамойцін**

*Праця́г са старонкі 1*

# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА АПАЗЫЦЫІ

Наша ідэя — Беларусь, наша ідэалёгія — праўда. Нам лёгка, бо мы ня мусім хлусіць людзям. Мы не прыпадабнімся цынікам, якія лгуць сёньня адно, заўтра другое, абы застацца ля карыта. Фронт і надалей будзе казаць свайму народу праўду, бо сьвятое — Беларусь — не абароніш хлусьнёй...

Нямала людзей, падхопленых хваляю ўсеагульнага энтузіязму, чакала, што за пару гадоў усталюецца трывалая дэмакратыя, а наша незалежнасьць стане вечнаю і несумненнаю... Знаходзіліся й хітрамудрыя каньюктурнікі, якія думалі на сьпіне Фронту праслыць дэмакратамі-незалежнікамі ды пры народнай падтрымцы ўскочыць у нейкую намэнклятурную абойму новай улады. Імёны іхнія вы ведаеце; сёй-той зь іх, зрэшты, быў скарыстаны цяперашняй уладай і выкінуты на палітычны сьметнік. У кожным разе, не спадзяваймася на лёгкае жыцьцё. Нас чакаюць многія гады цяжкой палітычнай працы, у тым ліку й пасьля сыходу ненавіснага рэжыму.

На жаль, перад сыходам дачасьнікі яшчэ пасьпеюць шмат нашкодзіць беларушчыне. Ня месца... разьменьвацца на водгукі да АТН-аўскага варыва, згатаванага паводле старых рэцэптаў дзядзюхны Гёбэльса. Але тое, што мы пачулі... з вуснаў рэзанатара лябараторыі Замяталіна, сапраўды беспрэцэдэнтна. Сказана было прыблізна наступнае: «У Беларусі сёй-той спрабуе мусіраваць праблемы мовы й школы, каб потым ператварыць рэспубліку ў Косава (!)» Дык што, беларусы, якія на сваёй зямлі й нібыта пакуль яшчэ ў сваёй дзяржаве змагаюцца за родную мову навучаньня для сваіх дзяцей, ужо прыраўняныя да нацыянальнай меншыні пад іншаэтнічнай уладай? І калі беларусы — гэта тутэйшыя касавары, дык хто тады паводле Замяталіна адыграе ролю імпэрскага Белграду? Пытаньне рытарычнае, дый тэма ня новая. Новая хіба толькі адкрытасьць імпэрскага нахабства...

Зразумела... не памыляецца толькі ляжачы камень. Прыкладам, мне дагэтуль смыліць у душы, як не давялі мы да канца справу рэфэрэндуму 1992 году, не дамагліся яго, не запратэставалі належна — і тым самым фактычна ня зьдзейсьнілі волю паўмільёна суайчыньнікаў. А яны ж ускладалі на нас абгрунтаваную надзею: гісторыя Бацькаўшчыны насамрэч магла пайсьці інакш, будзь абраны тады, на ўздыме, новы парлямант!

У меншай ступені залежыў ад нас выхад іншага паваротнага моманту. Фронт сваёю Вясною-96 падрыхтаваў Восень 96-га — імпічмэнт Лукашэнкі. Восеньскія падзеі засьведчылі, што, насуперак вонкаваму ўражаньню, лукашэнкаўскі рэжым — гэта «калёс на гліняных нагах». Прынцып кадравага падбору ў вэртыкаль паводле найбольшага кампрамату й кругавой парукі прывёў да таго, што найслабейшыя падземныя штуршкі служаць сыгналам для здачы патрона. Увосень 96-га... на таемныя сустрэчы з кіраўніцтвам БНФ прыбыло нямала высокапастаўленых чыноў, якія запэўнівалі: «Вы толькі напніцеся, а мы дапаможам». Але якраз страх і няўпэўненасьць 13-га ВС, няўменьне бальшыні ягонае дэмакратычнае часткі дзейнічаць у экстрэмальнай сытуацыі прывялі да краху спадзеваў на хуткае й законнае ўхіленьне дыктатуры.

Зразумела, гэтыя няўдачы надоўга выбівалі з каляіны й Фронт, і ўсё грамадзтва. Пэсымізм і жаданьне махнуць на ўсё рукой перажывалі многія людзі. Але ўсё роўна ад лёсу не ўцячэш: калі ты не цікавісься палітыкай, яна — у абліччы лукашэнкаўскага рэжыму й ягоных службаў — зацікавіцца табой! Нямала народу спрабавала знайсьці сябе ў вольным прадпрымальніцтве — аж высьветлілася, што рэжым душыць свабоду ня толькі ў прэсе, але й на рынку...

Сёньня аб'яднаньне антыдыктатарскіх сілаў... магчымае й неабходнае, але на падставе некалькіх ключавых прынцыпаў. Гэта: катэгарычная абарона незалежнасьці Беларусі, а значыць, адмаўленьне ад ілюзіяў наконт прыходу дэмакратыі з Масквы. Гэта таксама нязгода ўдзельнічаць у выбарчых спэктаклях рэжыму...

На шчасьце, сама гісторыя — настаўніца жыцьця — вучыць тутэйшых дзеячоў. Па-першае, беларускія палітыкі пакрысе пачынаюць цяміць, што Масква іх не паставіць кіраваць бульбяной рэспублікай замест Лукашэнкі. Дарэчы, сёлетні жнівень стаў сапраўдным момантам ісьціны й для заходнікаў, якія, зьдзіўлена азіраючыся, кінуліся шукаць раптам зьніклыя дзясяткі мільярдаў інвэстыцыяў у «дэмакратычную» Расею, і для многіх беларускіх кіраўнікоў: калі беларускія заводы на гвалт і насуперак рынкавым законам былі прывязаныя да расейскіх паставак і зьбыту, а потым усё гэта абвалілася, — яны паважна абурыліся.

Найноўшы досьвед Азэрбайджану падказвае, што нашым калегам-дэмакратам варта прыцішыць свой перадвыбарчы імпэт. Генэрал КГБ Аліеў трыумфальна перамог, і не сумнявайміся: ягоны сцэнар паўторыць і лейтэнант КГБ Лукашэнка. Нам... па сілах зрабіць адну супольную справу: правесьці маніторынг магчымае перадвыбарчае сытуацыі паводле некалькіх парамэтраў: свабода прэсы, наяўнасьць палітычнага перасьледу ў судох, законнасьць утварэньня й плюралізм складу выбарчых камісіяў зьверху данізу. Можна не сумнявацца ў выніках такога маніторынгу. Але ён мусіць адбыцца загадзя, яшчэ да пачатку магчымых выбарчых гульняў, канстатаваць, што ў краіне няма ўмоваў для свабоднага волевыяўленьня грамадзянаў, і пераканаць міжнародную супольнасьць не прызнаваць вынікаў лукашысцкага выбарчага фарсу.

Мы... маем... некалькі палітычных інструмэнтаў для ўплыву на сытуацыю. Гэта — і кампанія «Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!», вынікі якой будуць асабліва важкія пасьля сканчэньня канстытуцыйнага тэрміну прэзыдэнцтва Лукашэнкі, калі ён стане «міжнародна прызнаным» узурпатарам. Гэта — і ідэя грамадзянства БНР. Калі, ня дай Божа, д'ябальская гульня Лукашэнкі й крамлёўскіх валадароў прывядзе да рэальнай пагрозы незалежнасьці краіны — мы маем на гэта юрыдычны адказ. Эміграцыйны ўрад несавецкае Беларусі — урад БНР — адзіны сярод аналягічных экзыльных урадавых структураў суседніх краінаў ня здаў сваіх паўнамоцтваў пасьля аднаўленьня незалежнасьці ў 1991 годзе, бо ня бачыў надзейных гарантыяў захаваньня дэмакратычнае, сувэрэннае дзяржаўнасьці. Гэта дае нам магчымасьць, як калісьці эстонцам у канцы 80-х, правамоцна набываць грамадзянства Беларускае Народнае Рэспублікі, а на ягонай аснове — аднаўляць дзяржаўнасьць.

Гісторыю падмануць яшчэ нікому не ўдавалася. Ня ўдасца й Лукашэнку. Бясспрэчна і на жаль, дзеля ягонае бурлівае дзейнасьці слова «Беларусь» у сьвеце атаесамляюць з дыктатурай. Але нас ведаюць як незалежную краіну. Аслабленьне Расеі й ейны распад як імпэрыі непазьбежныя, пытаньне толькі ў тэрмінах. Таму нашая задача — ня трапіць у расейскія жорны «на разьвітаньне», перад самым развалам суседняй усходняй імпэрыі.




## МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ:

Сучаснае становішча й разьвіцьцё правоў чалавека ў РБ залежыць ад трох асноўных фактараў.

Перадусім гэта — міжнародны фактар, які ўлічвае месцазнаходжаньне Беларусі, ейныя межы з суседнімі дзяржавамі, іхні ўзровень дэмакратычнага разьвіцьця. Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў Эўропе, дзе правы чалавека атрымалі найбольшае прызнаньне. І нягледзячы ні на якія часовыя перашкоды, яна імкнулася й будзе ймкнуцца ўвайсьці ў сям'ю эўрапейскіх, а не азіяцкіх народаў. У гэтым кірунку было ўжо нямала зроблена, але рух у цяперашні час прыпынены, гвалтоўна затармажаны таталітарным рэжымам прэзыдэнта.

Другім фактарам зьяўляецца гістарычная спадчына, адносіны да гэтае праблемы народа ў нядаўнім савецкім мінулым...

Трэці й самы галоўны фактар — гэта цяперашні стан грамадзтва ў ва ўсім комплексе ягонай праявы. Калі казаць наогул, дык сытуацыя ў Беларусі сярэдзіны 90-ых гадоў XX ст. для зацьвярджэньня правоў чалавека неспрыяльная. Асабліва яна ўскладнілася з канца 1994 году.

У Беларусі правы чалавека парушаюцца ня толькі таталітарным рэжымам улады, але й матар'яльнай незабясьпечанасьцю, прававой усёдазволенасьцю (прававым чарнобылем), разбуральнай канфрантацыяй, а адсюль, як вынік, нежаданьне чалавека захоўваць правы іншага.

Асабліва ўскладнілася становішча ў сфэры аховы правоў чалавека пасьля сфальсыфікаваных вынікаў рэфэрэндуму 1996 году. Прынцып падзелу галінаў улады быў фактычна зьліквідаваны, таму што прэзыдэнт палічыў яго пагрозаю для дзяржавы. Яшчэ задоўга да лістападаўскага рэфэрэндуму прэзыдэнт высунуў, мякка кажучы, «арыгінальную канцэпцыю» пра прызначэньне й месца прэзыдэнцкай улады, паводле каторай прэзыдэнцкая ўлада павінна зрабіцца «ствалом», на якім павінныя расьці астатнія «галіны» ўлады (заканадаўчая, выканаўчая, судовая). Замест трох галінаў улады ў Беларусі ўтварылася чатыры. Аднак пасьля рэфэрэндуму 1996 году гэтае мутантнае дрэва... засохла. Ад яго застаўся адно толькі загнілы ствол — прэзыдэнцкая ўлада — каторы распаўсюджвае вакол сябе смуродныя й хваравітыя міязмы, што забіваюць ня толькі чалавека, але й яго самога, як духова, гэтак і фізычна...

У Беларусі фактычна ўжо сфармавалася паліцэйная дзяржава, якая мае тры самастойныя ўзброеныя сілы: Міністэрства Абароны, Міністэрства Ўнутраных Справаў і КДБ. Менавіта тры, бо Міністэрства Абароны мае армію, Міністэрства Ўнутраных Справаў — унутраныя войскі, якія маюць на ўзбраеньні ня толькі стралковую зброю, але й бранетэхніку, КДБ — спэцыяльныя вайсковыя адзінкі.

Характэрная асаблівасьць створанага становішча тое, што ў органах МУС служыць звыш 120 тыс. чалавек, што перавышае колькасьць узброеных сілаў краіны ў 1,5 разы. Колькасьць супрацоўнікаў унутраных справаў у Беларусі ў разьліку на 100 тыс. насельніцтва ў 4,5 разы больш, чым, скажам, у Польшчы. Супрацоўнікі органаў унутраных справаў, унутраныя войскі, супрацоўнікі спэцпадразьдзяленьняў КДБ выкарыстоўваюцца для разгону масавых шэсьцяў і дэманстрацыяў пратэсту, для аховы асуджаных і арыштаваных. Атрымаць жа абарону парушаных правоў у судах усіх інстанцыяў немагчыма, таму што судовая ўлада пасьля лістападаўскага рэфэрэндуму цалкам падпарадкаваная прэзыдэнту.

Прэзыдэнцкая вертыкаль забясьпечвае суды памешканьнямі, транспартам, дае ім жытло й ня проста жытло, а службовыя кватэры. Практычна гэта азначае тое, што сям'я працаўніка суду пражывае ў кватэры датуль, пакуль ён (або хто іншы зь сям'і) працуе ў судзе (!). Калі яго звольняць, дык ён павінны вызваліць і службовую кватэру.

Вось так выглядае ў Беларусі незалежнасьць судзьдзяў. Судовая ўлада служыць не закону, не праву, а прэзыдэнцкай уладзе й зьяўляецца інструмэнтам у ейных руках. Ілюстрацыяй да гэтага могуць служыць беспадстаўныя прыцягненьні да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці дэпутатаў ВС, разгон мірных дэманстрацыяў і зьбіцьцё дэманстрантаў, у тым ліку жанчынаў і дзяцей, забарона на працаўладкаваньне кіраўнікоў апазыцыі, забарона свабодных СМІ й г. д. Усё гэтае праводзіцца ў Беларусі з ваяўнічым прававым нігілізмам прэзыдэнта рэспублікі. Ён адкрыта й неаднойчы заяўляў: «Чэсна гаваря, я пашол на нарушэніе закона», «Я не пасматрю на закон, ні на что», «Есьлі толька хоць маленькая будзет зацэпка, я вам абешчаю — без суда і сьледзтвія ўсех да едзінага, кто прічасьцен к этаму — ў каталажку», «Да разьве я буду глядзець на какія-та законы, есьлі страдает рядам чэлавек» і г. д... Гэтыя выказваньні можна прыводзіць бясконца, але самае галоўнае не ў выказваньнях, а ва ўчынках, якія куды больш небясьпечныя, чым самыя выказваньні.



## СЛАВАМІР АДАМОВІЧ:

Мне, літаратару, прасьцей мысьліць у вобразах. І мой ацэначны погляд на жыцьцё, на падзеі ў пэўнай ступені ідэалістычны. Але, як ня дзіўна, у той сытуацыі, якая сёньня склалася ў Беларусі, ідэалізм (г.зн калі за душой ёсьць нешта сьвятое, а для мяне гэта перадусім незалежная Бацькаўшчына) вельмі йстотна дапамагае ў рэальным жыцьці. Тое негатыўнае й недарэчнае, што сёньня адбываецца ў Беларусі для гісторыі, можа стацца, адно толькі імгненьне. Аднак для аднаго чалавека гэта можа заняць усё ягонае жыцьцё. Таму тут такую важную ролю адыйграюць нашыя пераживаньні й ідэалы. Тое, што давялося перажыць мне ў зьняволеньні, перажываюць і яшчэ перажывуць іншыя беларускія патрыёты. І пераадольваць нягоды дапамагае нам нашая вера ў тое, што мы, беларусы, а найперш маё пакаленьне й маладзейшыя за нас, — здабудзем Беларусь як незалежную, эўрапэйскую дзяржаву. Тыя юнакі й дзяўчаты, мае аднагодкі й старэйшыя за нас, якія прайшлі й яшчэ пройдуць праз турмы, — навучаюцца, як выстойваць і адстойваць незалежнасьць. Іхняе змаганьне ёсьць гарантыя таго, што рана ці позна Беларусь будзе здабытая.

Ня трэба забываць, што высокая палітыка трымаецца на груньце штодзённай палітыкі й дзейнасьці людзей. Трэба нармальна сабе ўяўляць, што ня толькі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, нязломныя дэпутаты ВС 13-га скліканьня рэпрэзэнтуюць сёньня й здабываюць міжнародную ўвагу да нашых беларускіх праблемаў, але (што ня менш важна) рэальна дзейнічаюць на самым нізавым узроўні сотні й тысячы нікому невядомых беларускіх змагароў. Гэта ёсьць натуральны элемэнт усялякай сапраўднай барацьбы. Менавіта гэтае нябачнае змаганьне ўсьцешвае мяне й прыдае ўпэўненасьці. Як бы не паварочвалася справа ў сфэры высокай палітыкі, будуць і ёсьць людзі, якія ніколі не пагодзяцца зь нялюдзкім рэжымам, не здадуцца, не ўцякуць за мяжу.

Сымбалічны прыклад нашага змаганьня гэта дзейнасьць легендарнага Мірона. Дзякуючы гэтай дзейнасьці з пэрыядычнасьцю прыкладна раз на месяц у самых нечаканых мясцох узьнімаюцца нашыя нацыянальныя сьцягі: на лініях электраперадачаў, на высозных комінах і нават над будынкам аблвыканкама ў Віцебску. У Віцебску беларускі сьцяг быў узьняты, як кажуць, сярод бела дня — а 10-ай раніцы.

Рэжым нездарма адчувае пагрозу такіх, на першы погляд бяскрыўдных, акцыяў, бо яны даюць прыклад моладзі, як трэба змагацца, і паказваюць, што ў барацьбе за сваю асабістую й дзяржаўную незалежнасьць няма межаў. Я ведаю, што нашая моладзь, калі не застанецца нічога іншага, выкарыстае самыя скрайнія сродкі.

З аднаго боку мы кажам, што рэжым Лукашэнкі гэта дыктатура, але зь іншага боку я бачу ейнае бясьсільле й слабасьць. І яна тым больш будзе слабнуць, тым больш няпэўна пачувацца, чым больш мы, беларусы, найперш тыя, хто жыве ў мэтраполіі, будзем супрацiўляцца абсалютна ўсялякімі спосабамі на самых розных узроўнях — ад слова да дзеяньня. І нават калі б (гэта, безумоўна, маё чыстае ідэалістычнае дапушчэньне) увесь сьвет раптам прызнаў рэжым Лукашэнкі й пачаў дапамагаць яму, мы павінныя працягваць нашае змаганьне, спадзеючыся ня столькі на зьнешнюю дапамогу, колькі на свае ўласныя сілы. Нашае змаганьне перадусім ёсьць справа нашага сумленьня, нашай волі ды выбару й, дзякуй Богу, нашая беларуская змагарная моладзь разумее гэтую няпростую ісьціну.

Сёньняшні рэжым у Беларусі мы называем «акупацыйна-марыянэтачным». Але яго можна назваць таксама й «каляніяльным», бо ў ім прысутнічаюць прыкметы абодвух. А таму я разглядаю становішча ў Беларусі ня столькі праз прызму правоў асобна ўзятага чалавека, колькі ў сьвятле правоў беларускай нацыі, бо ня стане свабодным адзін чалавек, пакуль ня будзе здабытае права нацыі.

*P. S. Запрашаем усіх ахвотных падтрымаць артыкуламі, допісамі й іншымі матар'яламі сэрыю публікацыяў «Беларусь вачыма апазыцыі»!*

## З «Каляднага вітаньня Мітрапаліта Ізяслава»:

«...Пасьля стагодзьдзяў незалежнага дзяржаўнага існаваньня знайшліся, нажаль, вонкавыя й нутраныя сілы, што адабралі ў нашага Народу спачатку Праваслаўную Веру, а за ёй і свабоду.

Пазьней уладу над ім узялі адкрытыя слугі цемры ды адпалохалі ад усялякае веры ў Бога, або ў нешта вышэйшае за патрэбы чэрава.

Сёньня ён жыве гаротным і небясьпечным жыцьцём у атрутным абсягу засталага па савецкай імпэрыі гнільля, ды, замест навукі як ісьці да лепшае будучыні, чуе адно зманы хвальшывых прапаведнікаў варочацца ў жахлівую мінуласьць.

І, як некалі жыды, наш Народ пачынае верыць, што ратунак з галечы й крыўды дасьць яму прысланы, хоць ня зь неба, але ад суседзяў павадыр, або дыктатар.

На бяду, узноў-жа як даўней жыды, ён ня бачыць, што збаўленьне ад ягонае нядолі не на сілу сьвецкім уладарам, а можа прыйсьці толькі з Божае ласкі, на якую трэба заслужыць паправаю жыцьця.

Мае Любыя! У сьвятле праўды, што яе весьціць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Вы пабачылі Мэту, дзеля якое зыйшоў на зямлю й навучаў людзей годна жыць наш Збавец Ісус Хрыстос.

Гэтая Мэта ня ў жыцьці паводле загадаў памыльных людзей, што часова валодаюць намі, а ў послуху звышнім наказам любіць Бога больш за ўсё ды кожнага бліжняга, як самога сябе.

Ідзіце-ж, пачаўшы йзь Сьвятога Дня Хрыстовага Нараджэньня, як Ягоныя вучні да свайго Народу ды навучайце гэты Народ пакланяцца Богу, а не часовым уладарам, любіць Край і мову, ды цаніць права на свабоду, якім Ён нас абдарыў...»

**+ Мітрапаліт Ізяслаў**
*Першагерарх БАПЦ*

## На парозе Новага Году

На небасхіле старагоднім
Стаю, гляджу на свой народ,
І думаю аб краі родным:
Што яму зычыць Новы Год?

І думаю аб патрыётах,
Што у зьняволеньні сядзяць,
Аб іхніх муках і нягодах –
Бо праўду здолелі сказаць!

І веру: іхняму цярпеньню
На зло круцельствам махляроў
Складуць пашану пакаленьні,
Дамогшыся сваіх правоў...

Але ж скажы мне, Новы Годзе,
Як маюць людзі далей жыць?
Ці хопіць мужнасьці ў народзе?
Быць Беларусі, ці ня быць?

**Юры Весялкоўскі**
*Англія*



## Дзякую за кніжкі

якія атрымаў і ўжо прачытаў. Кніжкі даюць шмат вестак, якіх мала хто адважваецца друкаваць. «У пошуках зачараваных скарбаў» на бачыне 57-ай зацемка пра Хведара Ільяшэвіча. Ёсьць памылкова зазначана, што апынуўся ў Англіі, дзе (паводле вусных зьвестак) загінуў у самаходовай катастрофе. Але гэта адбылося ў Нямеччыне, а ня ў Англіі. Сп. Хведар Ільяшэвіч быў мой настаўнік у Лягеры Ватэнштэт «Ангельская Зона». Вось толькі год і дата катастрофы мне не памятаецца, але гэта было перад маім ад'ездам у ЗША перад 1951 годам. Хведар Ільяшэвіч вельмі любіў дзяцей і, калі йшоў па лягеры, заўсёды нехта з вучняў быў зь ім, або малая купка вучняў праходзілася зь ім днём. Шмат увагі даваў вучням, усьмешка на ягоным твары заўсёды прысутнічала, заўсёды быў вясёлы.

**К. Верабей**
*Амэрыка*

## У сядзібе таварыства «Беларусы Сыбіры»

вісіць абраз Маткі Боскай Вастрабрамскай. Гэты абраз быў намаляваны й асьвечаны 4 жніўня 1894 году ў



*Сябры рады таварыства «Беларусы Сыбіры» ў сваёй сядзібе*

Мензялінску непадалёк ад Набярэжных Чаўноў (Татарыя) ў Прарока-Ільлінскім жаночым манастыры. У 1840 годзе ўдовамі й сіротамі, якія пасяліліся на могілках царквы прарока Ільлі, была заснаваная абшчына, а ў 1860-ым яна была пераўтвораная ў манастыр.

Вось якія сувязі паміж намі!

*Старшыня рады таварыства «Беларусы Сыбіры»*
**Уладзімір Галуза**
*Навасыбірск*

## З кронікай беларускага жыцьця

ў штаце Вікторыя, Аўстралія, пазнаёміў нас Паўлюк Дуброўскі. Вось некаторыя вытрымкі з кронікі:

«...Беларусы, якія належаць да пэнсійнага клюбу зьбіраюцца... кожнага другога тыдня ў чацьвер, дзе праводзяць вольную хвіліну, граючы ў бінга ды ладзячы частыя пікнікі й розныя вандроўкі па пекных мясьцінах Аўстраліі.

22 лістапада Мельнбурнская БАПЦ Сьв. Віленскіх Пакутнікаў ладзіла сваё парафіяльнае сьвята, а, менавіта, адзначалася 17-годзьдзе з таго дня, як у сваім будынку адпраўляюцца Божыя Службы. Пры гэтай нагодзе быў зладжаны агульны малебен і ўлаштаваная сястрыцтвам пачостка ў прыцаркоўнай залі. Пры гэтым хорам гуртка «Каліна», які йснуе пры царкве, было прасьпявана пара добрых беларускіх песень. Дзяўчаты былі ўвабраныя ў нацыянальныя строі, тут жа разыгравалася лятарэя, даход ад каторай пайшоў на сястрыцтва... Адно толькі засмучае думка, што старыя памалу адыходзяць, а маладых няма...



16 сьнежня беларуская грамадзкасьць ладзіла 78-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну.., якія лічыцца жалобным у нашай вызвольнай барацьбе. Пасьля Сьвятой Літургіі настаяцель мясцовай БАПЦ протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі казаў казань у патрыятычным дусе, напомніўшы прысутным, што шмат хто із нас забыліся на сваё роднае й балючае для нас, а толькі цешыцца дабрабытам, у той час, як наш народ на Бацькаўшчыне вядзе гаротнае жыцьцё... Пасьля айца Кулакоўскага, у прыцаркоўнай залі, сп. Паўла Гуз адкрыў Урачыстую Акадэмію.., на якой сп. Алег Шнэк дакладна апавёў пра падзеі 78-гадовай даўнасьці. На мастацкай частцы сп. Аўген Груша прадэклямаваў верш «Волат», ведамы яму яшчэ са школьных часоў... Спн. Вера Шайпак прачытала верш «Пад белчырвона-белым сьцягам» Юрыя Карэйвы, а Аўген Груша верш Алеся Змагара «За Бацькаўшчыну»... Затым сп. Ян Барысевіч, бацька якога быў удзельнікам Слуцкага Збройнага Чыну, у вельмі вострай форме выказаў сваю думку адносна зграі Лукашэнкі й зазначыў, што гэты хрыстапрадаўца робіць зараз тое самае з нашым народам, што рабілі 78 гадоў назад бальшавікі...»

## Газэта «Рунь»

станоўча займае віднае месца ў беларускім нацыянальным друку, хоць, як і ў кожнай газэце, ня ўсё бывае аднолькавае й па цікавасьці й па ўзроўню. Пішу пад уражаньнем ад 19-га нумару, дзе выдатны матар'ял «галасоў апазыцыі», матар'ялы да гісторыі Віленскае гімназіі ды інш. Дарэчы, у ЗША жывуць абітурыенты тае Кузьні, а ў калекцыі БІНІМУ ёсьць першы нумар часапісу «Сям'я і Школа» – воргану Бацькоўскага Камітэту й Пэдагагічнай Рады Гімназіі за люты 1929 году; ёсьць брашура пра гімназію (1944).

З пашанай

**Вітаўт і Зора Кіпелі**
*Амэрыка*

**Алег Аблажэй**

# Ліст да рэдактара газэты "Литовский курьер", які вельмі любіць беларускага прэзыдэнта

Глыбокапаважаны тав. Строганаў!

Піша Вам адзін з найбольш верных чытачоў вашае газэты. Сакрэт просты — газэта зьяўляецца дайджэстам замежнага друку, у асноўным расейскага, які стаў цяпер для нас цяжкадаступным. А мяне цікавіць, што дзеецца на абшарах былога СССР, і асабліва, як беларуса, — што робіцца на маёй Радзіме. Пра Беларусь і ейнага прэзыдэнта пішуць многа й па-рознаму. Аднак на старонкі Вашае газэты трапляюць толькі такія артыкулы, у якіх Лукашэнка малюецца гэткім славянскім асілкам, непахісным барацьбітом за праўду й справядлівасьць. Маўляў, у сваёй рэспубліцы ён навёў парадак, ня даў разваліць, як у Літве, калгасы, а эканоміка Беларусі разьвіваецца небывалымі тэмпамі, якім дзівіцца й зайздросьціць уся Эўропа. Сама ж Беларусь — гэта востраў стабільнасьці, сацыяльнай згоды й дабрабыту пасярод акіяну анархіі, хаосу ды беднасьці, які разьліўся па тэрыторыі былога Саюзу. І люд Беларусі проста абагаўляе свайго «бацьку», народы ж Расеі толькі й мараць мець Лукашэнку сваім прэзыдэнтам. Ну, вядома, ворагі льюць на мужнага беларускага правадыра патокі паклёпаў, хлусьні т й абразаў, але ён, насуперак усяму, упарта крочыць наперад да сваёй мэты — стварэньня Вялікай Слвавянскай Дзяржавы...

І вось уявілася мне, што Ўсявышні — а мо проста Дзед Мароз — пастанавіў зрабіць Вам на Новы Год падарунак. І закідвае Вас зь Вільні праз нейкую прасторавую дзіру, як у фантастычных раманах, у Менск ці ў які-колечы іншы беларускі горад. Вы толькі што атрымалі зарплату: таўсты пачак навюткіх хрумсткіх «зайчыкаў». Колькі? Мой знаёмы, загадчык рэдакцыі мастацкага афармленьня ў адным салідным дзяржаўным выдавецтве атрымлівае 6 міль. рублёў! Дапусьцім, столькі ж атрымалі й Вы, і Вас прыемна грэе думка, што быць мільянэрам у рэспубліцы, эканоміка якой разьвіваецца найшпарчэй у Эўропе, мабыць, зусім някепска. І вырашаеце зрабіць сабе падарунак — набыць тэлевізар. Заходзіце ва ўнівэрмаг і вытрэшчваеце вочы на цэньнік: самы танны тэлевізар каштуе 44 658 000 рублёў! «Дарагавата аднак,» — мармычаце й пастанаўляеце выб-



раць больш сьціплы падарунак, новы пінджак. У аддзеле адзеньня падозрана пуста, хоць вопраткі павешана шмат. І зноў няўдача: самы танны пінджак каштуе 6 654 000 рублёў. Вы выходзіце з унівэрмагу з пустымі рукамі, і, узгадаўшы, што хутка Новы Год, як чалавек інтэлігентны, хочаце набыць пляшку сухога віна, а як чалавек ашчадны, успамінаеце, што ў Ранейшым Жыцьці (у Вільні) самым танным была баўгарская «Монастырская изба»... Высьвятляеце, што ў Цяперашнім Жыцьці яна каштуе ажно чвэрць зарплаты — 1 420 000 рублёў! З Вашых вуснаў міжволі зрываецца лаянка, але, каб не вяртацца дамоў з пустымі рукамі, вырашаеце купіць хоць бы кавы. І зноў сюрпрыз — пачак улюбёнага «Якабса» каштуе... 1 258 000 рублёў! Тады Вы набываеце маленькі пачак гарбаты (усяго за 200 000 рублёў) і думаеце, што някепска было б набыць да яе цукру. Падыходзіце да прылаўка, але ў Вас патрабуюць пашпарт, правяраюць прапіску й высьвятляецца, што набыць сваю норму цукру можна толькі раз на месяц і тое ў краме, да якой Вы прыпісаныя. «Чаго ж яшчэ можна купіць зь ежы?» — разважаеце Вы. Да аднаго з прылаўкаў даўжэзная зьмяёй віецца чарга за курынымі тушкамі. Зірнуўшы на тыя пасінелыя трупікі, Вам чамусьці ўспамінаецца жалобны гімн «Замучен тяжёлой неволей». Вы азіраецеся, але Ваш позірк упіраецца ў паліцы, спрэс застаўленыя бутэлькамі зь мінэральнай вадой, ліманадамі анілінавых калёраў ды кукурузнымі палачкамі. Нарэшце, Вы бачыце пакеты цымэнтава-шэрых макаронаў ды ячневай крупы, набіраеце поўны кошык гэтага дабра й становіцеся ў чаргу да касы. Перад Вамі якісьці нецьвярозы дзядзька пяе частушку:

*Водку пьём по двести восемь,*
*Масла больше и не просим,*
*Яйца видим только в ванне,*
*С Новым Годом вас, минчане!*

А сапраўды, думаеце Вы, ні масла, ні яек у краме няма. Тут падыходзіць Вашая чарга да касы. Нечакана касірка хапае Ваш кошык, выбірае палову пакетаў з прадуктамі й злосна адкідвае ўбок, паказваючы на табліцу над касаю «Нормы отпуска продуктов в одни руки». Вы, зайздросьцячы дванаццацірукаму богу Шыве, выходзіце з крамы. Усё ж такі сустракаць Новы Год бяз выпіўкі ня сьлед. Заходзіце ў гарэлачную краму й пераконваецеся, што выканаўца частушкі быў, відаць, паклёпнік: бо гарэлка ёсьць ня толькі за 208, але й за 170 тыс. Выйшаўшы з бутэлькай, цікавіцеся, а колькі ж будзе Ваш заробак у далярах? У пункце «Абмен валюты» адзін даляр роўны 220 000, але яго не купіць. Побач «жучкі» прапануюць 280 000. Значыць, Вашыя 6 мільёнаў роўныя 15 далярам! Вы гаротна хапаецеся за галаву й ідзеце ў бок мэтро. Але натыкаецеся там на гіганцкую чаргу па жэтоны: аказваецца іх даюць ня больш двух у адныя рукі. Праўда, гэтыя жэтоны, як і тралейбусна-аўтобуснатрамвайныя талёны, каштуюць усяго 3 000... І Вы спрабуеце зразумець, як можа ў такім выпадку функцыяваць грамадзкі транспарт, калі паліва й запчасткі купляюцца за валюту? А так і функцыянуе: аўтобусы, трамваі й тралейбуся брудныя й разьбітыя...

Ледзь жывы дабраўшыся дамоў, Вы проста «з гарла» асушаеце бутэльку і ўключаеце стары тэлевізар. На экране Ваш былы кумір Лукашэнка з навагоднім віншаваньнем. Калі ён пачынае гаварыць аб «росьце валавага прадукту» й бліскучых пэрспэктывах эканомікі, Вы не вытрымліваеце й шпурляеце парожняй пляшкай у экран. Пасьля знаходзіце ў кішэні Вашага паліто забытую літоўскую газэту, выстрагаеце нажніцамі партрэты Лансбэргіса й Вагноруса, наклейваеце іх на сьцяну, кленчыце перад імі і пасыпаеце голаў попелам ад цыгарэтаў... А калі Ўсявышні — ці то проста Дзед Мароз — вяртае Вас у Вільню, на злом галавы бяжыце ў рэдакцыю «Литовского курьера» й даеце ў набор артыкул з рускамоўнай Менскай газэты «Имя», якую спрадаў Вам, азіраючыся, нейкі ягамосьць у падземным пераходзе. Гэта —інтэрвію з былым віцэ-прэм'ерам Барысам Нямцовым пад красамоўнай назвай «Я провёл ночь с Лукошенко и чуть не сошёл с ума».

А яшчэ, помніцца, пасьля візыту Лукашэнкі ў Вільню Ваша газэта — ад імя рэдакцыі! — з абурэньнем пісала, што сабраліся, маўляў, на плошчы экстрэмісты й «трясли лозунгами оскорбительного содержания» перад картэжам беларускага прэзыдэнта. Як бы гэта Вам лепш зразумець пачуцьці й матывы паводзінаў тых «экстрэмістаў»? Змадэлюем такую сытуацыю.

Вы, чыстакроўны расеец, стаміліся ў Літве ад чужой мовы й вырашаеце адпачыць, сядаеце ў цягнік і едзеце ў «златоглавую Москву». Выходзіце на пэрон й дзівіцеся, што ўсе шыльды на вакзале й на вуліцах, напісаныя, хоць і расейскімі літарамі, але па-баўгарску! Хочаце купіць рускамоўную газэту, але ў шапіку усё таксама на баўгарскай мове. І ўсе навокал гавораць па-баўгарску. Вы пачынаеце гучна абурацца, але да Вас падыходзіць тры малойчыкі ў плямістай форме й пытаюцца: «Вам што, славянскае адзінства не падабаецца?» Падзякаваўшы Богу, што не патрапілі ў пастарунак, Вы купляеце баўгарскую газэту й чытаеце, што рыхтуецца стварэньне баўгарска-расейскага саюзу. А Вы ж ведаеце, што ў Баўгарыі людзі па году не атрымліваюць зарплаты, а ў пад'ездах там забіваюць людзей... Вы едзеце да свайго найлепшага сябра, купіўшы пляшку расейскай гарэлкі з этыкеткай на баўгарскай мове. Сябар апавядае, што ва ўсёй Маскве засталася толькі адна расейская сярэдняя школа...

Вы вяртаецеся цягнікам дамоў і прыдумваеце самыя-самыя зьневажальныя лёзунгі, каб падчас візыту расейскага абаўгаранага прэзыдэнта выйсьці на вуліцу й трэсьці імі, трэсьці...

Аднак, калі гаварыць усур'ёз, дык я ня веру, што Вы ўсяго гэтага ня ведаеце: і інфармацыяй Вы валодаеце, дый пачуцьцё гумару ў Вас ёсьць. Вельмі цікава, чым жа ў такім выпадку Вас захапляе такая адыёзная ва ўсіх адносінах фігура? Вядома, у нас, у Літве, мякка кажучы, ва ўрадзе ня самыя лепшыя людзі, і жыцьцё далёка ня мёд. Але ж усё пазнаецца ў параўнаньні.

А Вы вазьміце да напішыце сачыненьне «За што я люблю Лукашэнку», ды дашліце ў нашую газэту: мы абавязкова надрукуем!

**Умовы падпіскі**

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх рэдактару газэты Алегу Мінкіну **(Oleg Minkin)** або сакратару Паўлу Саўчанку **(Pavel Savcenko)**. Кошт падпіскі на год – **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна: *230023/ Гродна-23, п/с 194, Дануце Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год -- сума ў беларускіх рублях эквівалентная **3$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **5$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная ***8$***.

Вялікая просьба пры перасылцы грошай указваць свой і наш дакладны паштовы індэкс і адрас.

Спадзяемся на вашую дапамогу й разуменьне таго, як важна адрадзіць і захаваць беларускі друк менавіта ў Вільні, нашай старажытнай сталіцы.

*Для паляпшэньня працы рэдакцыі просім дасылаць вашыя допісы на адрас:*
***«Рунь», 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania***

**Ахвяраваньні на газэту даслалі:**

| | |
|---|---|
| *З. і В. Кіпелі* з Амэрыкі | 200$ |
| *С. Шаўцоў* з Аўстраліі | 25$ |
| *К. Верабей* з Амэрыкі | 30$ |
| *Л. Сурак* з Амэрыкі | 25$ |
| *В. Мілянцэвіч* з Аўстраліі | 100 аўст. дал. |
| *У. Акавіты* з Аўстраліі | 50 аўст. дал. |
| *А. Садоўскі* з Аўстраліі | 50 аўст. дал. |
| *М. Пецюкевіч* зь Італіі | 20$ |
| *І. Гурло* з Англіі | 500 анг. фунт. |
| *В. Русак* з Аўстраліі | 50$ |
| *В. Лінскі* з Аўстраліі | 50$ |
| *В. Лужынскі* з Аўстраліі | 50$ |
| *Р. Жук-Грышкевіч* з Канады | 50$ |
| *К. Брэннан* з Амэрыкі | 20$ |

**Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў**

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік і выдавец
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі:
**2001 Vilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: **42 38 02, 61 65 32**
Факс: **48 18 62**
друк: **АТ «Спаўда»**
замова ___
наклад **1000** асобнікаў
Сябры рэдакцыі:
**Алег Мінкін** - рэдактар
**Павал Саўчанка** - сакратар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Андрэй Цярэньцеў** - рэкляма й інфармацыя